



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

1 лютага 2019 года №5 (1240) 18+


# Прызналася, што задушыла 8-гадовага сына

## Што вядома пра маладзечанку, якую падазраюць у забойстве



старонка 5

Фота са старонкі падазраванай у сацыяльных сетках.


ПРИГЛАШАЕМ НА РАБОТУ zakrama
в магазины «ЗАКРАМА» (п.Чисть)
- КОНТРОЛЁРА-КАССИРА
- ГРУЗЧИКА

**Сотрудникам**: дисконтная карта, полный соц. пакет, достойный уровень з/платы
Тел.: (8-017) **308-16-02**
(8-029) **198-13-80**
(8-044) **755-97-72**
ООО «Закрамаркет» УНП 192511791


ISSN 1991–7155




Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/




АЛМИ СЕТЬ МАГАЗИНОВ
Сеть магазинов «АЛМИ»
приглашает на работу в Молодечно
- АДМИНИСТРАТОРА
- КОНТРОЛЁРА-КАССИРА
- ПРОДАВЦА
- ЗАВЕДУЮЩЕГО ПРОИЗВОДСТВОМ

**СОТРУДНИКАМ:** достойный уровень з/платы, доплата за стаж, расширенный соц. пакет, предварительное обучение и стажировка
Отдел персонала: (8-017) **308-16-02**, (8-044) **755-97-72,** (8-029) **198-13-80**
ЗАО «Юнифуд» УНП 800016624

Золотая мечта ювелирная сеть
В магазинах «Золотая мечта» «Царское золото»
ЦАРСКОЕ ЗОЛОТО ювелирная сеть
**СКИДКА** на изделия до **60%**
**РАССРОЧКИ** и **КРЕДИТЫ**
оформление на месте, нужен только паспорт
**«Золотая мечта»: ул. Притыцкого, 25** (возле универмага), тел. (8-0176) 770-055; **ул. Волынца, 7** (возле ателье «Берёзка»), тел. (8-0176) **777-923**
**«Царское золото»: ул. Притыцкого, 12** (возле пиццерии «Пингвин»), тел. (8-0176) **77-41-97.**
ООО «Залант Групп» УНП 192033734


## Якія вакансіі і заробкі прапануюць у рэгіёне

старонка 3

## Вілейчукі паскардзіліся ў Адміністрацыю Прэзідэнта на кепскія дарогі

старонка 2

## Як павіншавалі акцёра Сяргея Карзея

старонка 7

## Абмяркуюць, ці варта будаваць запраўку ў Сосенцы


Фота забяспечана аддзелам архітэктуры і будаўніцтва Вілейскага райвыканкама.

Так будзе выглядаць новая АЗС.

ВІЛЕЙКА

**Будаўніцтва запланавалі праграмай развіцця сеткі аўтазаправачных станцый у Беларусі на 2006-2020 гады. Арганізатар правядзення грамадскага абмеркавання – Вілейскі райвыканкам.**

Участак плошчай 1,7 гектара пад будаўніцтва аўтазаправачнай станцыі размешчаны на аўтадарозе Р-58 Мінск-Калачы-Мядзел у раёне вёскі Сосенка на Вілейшчыне. З паўднёвага боку – жылая забудова. З усходняга – будынак кафэ-гасцініцы.

Аўтазаправачная станцыя ўяўляе сабой сучасны аб'ект прыдарожнага сэрвісу, які адпавядае апошнім сусветным стандартам якасці і бяспекі.

АЗС з кругласутачным рэжымам працы магутнасцю 250 запраўак у суткі нафтапрадуктамі АІ-92, АІ-95, ДП, у зімовы перыяд ДП (Арктыка). З АЗС сумесцяць гандлёвую залу плошчай 114 квадратных метраў, якія ўключаюць кафетэрый на 12 пасадачных месцаў, гасцявую паркоўку на дзесяць машынамесцаў, пост падпампоўкі шын, пыласос.

Запланаваны тэрмін уводу аб'екта ў эксплуатацыю – кастрычнік 2019 года.

### Калі і як правядуць грамадскае абмеркаванне

Грамадскае абмеркаванне правядуць ад 11 да 7 лютага ўключна.

Азнаёміцца з экспазіцыяй праекта можна ад 11 да 25 лютага ўключна ад 8:00 да 13:00 і ад 14:00 да 17:00 у холе райвыканкама па адрасе: 222410, Мінская вобл., г. Вілейка, вул. Партызанская, 40.

Прэзентацыя праекта адбудзецца 13 лютага ў 17:30 у зале пасяджэнняў райвыканкама. Працягласць правядзення прэзентацыі праекта – да 15 лютага.

З матэрыяламі праекта можна азнаёміцца ў перыяд правядзення грамадскага абмеркавання:

• у электронным выглядзе – на афіцыйным інтэрнэт-сайце Вілейскага раённага выканаўчага камітэта ў рубрыцы «грамадскія абмеркаванні» (раздзел «Будаўніцтва і ЖКГ», падраздзел «Аддзел архітэктуры і будаўніцтва»);

• на папяровым носьбіце па адрасе: 222410, Мінская вобл., г. Вілейка, вул. Партызанская, 40 у рабочыя дні ад 8:00 да 13:00 і ад 14:00 да 17:00 і ў дні прэзентацыі праекта (ад 13 да 15 лютага 2019 г.) да 19:00.

Кантактная асоба – начальнік аддзела архітэктуры і будаўніцтва райвыканкама **Дзмітры Сяргеевіч Гарланаў**, тэлефон **8 (01771) 5-42-62** e-mail: **arh@vileyka.minsk-region.by** у рабочыя дні ад 8:00 да 13:00 і ад 14:00 да 17:00

Заўвагі і прапановы прымаюцца пісьмова падчас правядзення грамадскіх абмеркаванняў:

• па сродках паштовай сувязі;

• з выкарыстаннем электронных сродкаў сувязі (arh@vileyka.minsk-region.by);

• у журнале па правядзенні грамадскіх абмеркаванняў (у рабочыя дні ад 8:00 да 13:00 і ад 14:00 да 17:00 у холе райвыканкама па адрасе: 222410, Мінская вобл., г. Вілейка, вул. Партызанская, 40).

Заўвагі і прапановы, пададзеныя да і пасля названых тэрмінаў, разглядацца не будуць.

Прынятыя заўвагі і прапановы будуць накіраваныя распрацоўшчыкам праекта для ўліку ў працы і, у выпадку неабходнасці, унясення дапаўненняў і змен.

Арганізатар грамадскага абмеркавання ў 15-дзённы тэрмін пасля яго завяршэння забяспечвае размяшчэнне інфармацыі аб выніках правядзення грамадскага абмеркавання на афіцыйным інтэрнет-сайце Вілейскага райвыканкама.

Як расказаў карэспандэнту Дзмітры Гарланаў, калі пытанне вырашаць станоўча, АЗС пачнуць будаваць сёлета ў жніўні.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Вілейчукі паскардзіліся ў Адміністрацыю Прэзідэнта

ВІЛЕЙКА

**Прычына – кепскія дарогі. Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» паведаміў грамадскі актывіст ураджэнец Вілейкі Максім Ціханаў.**


Фота забяспечанае Максімам ЦІХАНАВЫМ.

Так выглядала дарога ў жніўні. У студзені нічога не змянілася.

Пра незадаволенасць дарогамі жыхароў дамоў 55 і 59 па вуліцы Талстога і дома 72 па Чапаева мы ўжо пісалі летась у жніўні. Тады віляйчане сабралі подпісы на рамонт дарогі і перадалі ліст у райвыканкам.

Заяўнікі атрымалі адказ, што супрацоўнікі райвыканкама і ЖКГ выехалі на ўказанае месца і агледзелі ўчасткі дарогі. Спецыялісты заўважылі толькі нязначныя ямкі на асфальце. Ямачны рамонт на гэтым участку правадзілі ў 2017. Летась пачалі рамантаваць тратуар і пад'язныя шляхі да дома №72 на Чапаева, замянілі 10 метраў разбітага бардзюра. Тыя змены магчымыя толькі падчас капітальнага рамонту. А летась такі рамонт не быў запланаваны.

Тады па ініцыятыве Максіма Ціханава скаргу даслалі ў Адміністрацыю Прэзідэнта і Камітэт дзяржкантролю. Але адтуль звароты перанакіравалі ў Мінаблвыканкам і абласны КДК.

У Камітэце дзяржкантролю паведамілі, што пытанне разгледзелі. Нават выязджалі на месца 11 студзеня. Але камісія не ўбачыла крытычнага стану дарогі, ямачнасці праезнай часткі і тратуараў у двара́х. Ацаніць праблему перашкодзіла снежнае покрыва.

Камітэт даручыў ЖКГ і райвыканкаму агледзець праблемны ўчастак дарогі не пазней за красавік і вызначыць, наколькі неабходны рамонт. Выкананне работ пракантралююць у камітэце. Цяпер вілейчукі чакаюць адказу ад Мінаблвыканкама.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


## Да ўвагі спажыўцоў электрычнай і цеплавой энергіі

Філіял «Энергазбыт» РУП «Мінскэнерга» паведамляе, што з прыняццем пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 29.12.2018 г. №985 «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у пастанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь» ад 30.12.2013 года №1166 ад 1 студзеня 2019 года ўстаноўленыя наступныя тарыфы на электрычную і цеплавую энергію для насельніцтва:

Тарыф на цеплавую энергію для патрэбаў ацяплення і гарачага водазабеспячэння:

ад 1 студзеня да 30 мая 2019 года ўключна – **16,9259 рубля за 1Гкал**;

ад 1 чэрвеня да 31 снежня 2019 года ўключна – **18,4831 рубля за 1 Гкал**.

Тарыфы на электрычную энергію, якая забяспечвае поўнае пакрыццё эканамічна абгрунтаваных затрат:

аднаставачны тарыф – **0,1921 рубля за 1 кВт***гадз.;

дыферэнцыраваны па часавых перыядах тарыф:

у гадзіны мінімальных нагрузак (ад 22:00 да 17:00) – **0,1345 рубля за 1 кВт*гадз.**;

у гадзіны максімальных нагрузак (ад 17:00 да 22:00) – **0,3842 рубля за 1 к**Вт*гадз.

Для разлікаў за электрычную энергію па дыферэнцыраваных па часавых перыядах тарыфах у выхадныя і святочныя дні прымяняюцца тарыфы, устаноўленыя ў перыяд мінімальных нагрузак.

| ТАРЫФЫ НА ЭЛЕКТРЫЧНУЮ ЭНЕРГІЮ | Тарыф, руб. за 1 кВт*гадз. |
|---|---|
| **Электрычная энергія ў жылых дамах (кватэрах), якія абсталяваныя ва ўстаноўленым парадку электрычнымі плітамі, за выключэннем указанай у пунктах 3 і 4** | |
| 1.1.аднаставачны тарыф | **0,1484** |
| 1.2.дыферэнцыраваны тарыф па часавых перыядах | |
| у гадзіны мінімальных нагрузак (ад 22:00 да 17:00) | **0,1039** |
| у гадзіны максімальных нагрузак (ад 17:00 да 22:00) | 0,2968 |
| **2. Электрычная энергія для патрэбаў ацяплення і гарачага водазабеспячэння з далучанай магутнасцю абсталявання больш за 5 кВт, за выключэннем указанай у пунктах 3 і 4** | |
| Дыферэнцыраваны тарыф па часавых перыядах | |
| у гадзіны мінімальных нагрузак (ад 23:00 да 6:00) | **0,1019** |
| у астатні час сутак | **0,1892** |
| **3. Электрычная энергія пры ўмове яе выкарыстання, у тым ліку для патрэбаў ацяплення і гарачага водазабеспячэння ў кватэрах шматкватэрных жылых дамоў, якія не абсталяваныя ва ўстаноўленым парадку сістэмамі цэнтралізаванага цепла- і газазабеспячэння і якія абсталяваныя ва ўстаноўленым парадку электрычнымі плітамі, пры адсутнасці асобнага (дадатковага) прыбора індывідуальнага ўліку расходу электрычнай энергіі для патрэбаў ацяплення і гарачага водазабеспячэння** | 0,0761 |
| **4. Электрычная энергія для патрэбаў ацяплення і гарачага водазабеспячэння ў жылых дамах (кватэрах), якія не абсталяваныя ва ўстаноўленым парадку сістэмамі цэнтралізаванага цепла- і газазабеспячэння, пры наяўнасці асобнага (дадатковага) прыбора індывідуальнага ўліку расходу электрычнай энергіі для патрэбаў ацяплення і гарачага водазабеспячэння** | 0,0335 |
| **5. Электрычная энергія, за выключэннем, указанай у пунктах 1-4:** | |
| 3.1. аднаставачны тарыф | **0,1746** |
| 3.2. дыферэнцыраваны тарыф па часавых перыядах: | |
| у гадзіны мінімальных нагрузак (ад 22:00 да 17:00) | **0,1222** |
| у гадзіны максімальных нагрузак (ад 17:00 да 22:00) | **0,3492** |

4. Дадатковую інфармацыю аб парадку разлікаў за электразабеспячэнне можна атрымаць на афіцыйным інтэрнэт-сайце філіяла «Энергазбыт» РУП «Мінскэнерга» **http://www.energosbyt.by.**

УНП 100071593



Ад 350 да 450 рублёў можа зарабіць барыста ў Маладзечне.

ЛІЧБА НУМАРА

715 436

ЧАЛАВЕК ЗВОЛЬНІЛІ З ПРАДПРЫЕМСТВАЎ У 2018 ГОДЗЕ.

ПАВОДЛЕ БЕЛСТАТ.

# Выхоўваць дзяцей за трыста рублёў або гатаваць каву за чатырыста

## Якія вакансіі і заробкі прапануюць у рэгіёне

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
СМАРГОНЬ

**Якую працу і якія заробкі прапануюць у рэгіёне? Зазірнём на сайты вакансій.**

У Маладзечне патрэбныя прамоўтары – людзі, якія будуць раздаваць рэкламныя лістоўкі каля магазінаў. Даволі своеасаблівая аплата працы. За адну гадзіну вам заплацяць два рублі 60 капеек. Калі працаваць пяць дзён па чатыры гадзіны, то атрымаеце 208 рублёў. Калі лістоўкі вяртаюцца ў магазін з пакупнікамі, вам налічваюць прэмію.

З «экзатычных» спецыяльнасцяў прапануюць барыста – спецыяліста па прыгатаванні кавы. Заробак – 350-450 рублёў.

Патрабуюцца таксама прадаўцы ў розныя крамы. Заробкі вельмі вагаюцца: ад 360 да 1000 рублёў. Часцей прапануюць 500.

Дастаткова прапаноў для кіроўцаў. У таксі абяцаюць 1500-3000, на пагрузчыку – да 420. Для кіроўцаў-міжнароднікаў заробак у большасці па дамоўленасці.

У Маладзечне на сайце мы не знайшлі вакансій для медыцынскіх сясцёр і фельчараў. Не так многа прапаноў для дактароў. Адна з самых свежых, размешчаная тыдзень таму, – доктар-спецыяліст у Маладзечанскую ЦРБ. Заробак – 460 рублёў.

Настаўнікаў запрашаюць у прыватныя ўстановы. Дэфектолагам, псіхолагам, настаўнікам пачатковых класаў згодныя плаціць ад 300 да 500 рублёў.

У некаторыя маладзечанскія садкі патрэбныя выхавальнікі. Заробак – 300 рублёў. Для памочніка выхавальніка яшчэ меншы – 270.

Няшмат свежых вакансій па Вілейшчыне. Але ёсць прапановы ад тысячы рублёў. Ад 1200 абяцаюць таму, хто пойдзе дырэктарам гаспадаркі ў Людвінова, ад 1500 і службовую кватэру – таму, хто пагодзіцца на такую ж пасаду ў Селішчы. 1200 прапануюць і дырэктару ПМК-185. Дырэктар Нароцкага Дома культуры, што будзе працаваць на паўстаўкі, атрымае ў разы менш – 185 рублёў.

Тысячу рублёў вілейскія наймальнікі абяцаюць маляру трэцяга-пятага разрадаў.

Хочаце папрацаваць у Вілейскім райвыканкаме? Ёсць вакансія спецыяліста ў аддзеле культуры, ідэалагічнай работы і па справах моладзі. Заробак – 403 рублі. Станочніка на «Буддэталі» клічуць за 520.

**Ад чатырохсот да васьмісот прапануюць кіроўцу з катэгорыяй Е. Аднак тут шмат своеасаблівых патрабаванняў: «адказны, акуратны!!!!!!!!!, адносіны да алкаголю ўмераныя!!!!!!!!! Курэнне ў салоне аўто адносіцца да акуратнасці!!!!!!!!!».**

Вілейская школа-інтэрнат шукае псіхолага за 400 рублёў і стаматолага на паўстаўкі – за дзвесце.

Заробак у 700 рублёў прапануюць егеру ў Вілейскім доследным лясгасе. Патрэбны досвед працы, адукацыі дастаткова сярэдняй спецыяльнай.

У Смаргоні патрэбныя прадаўцы ў супермаркеты. Заробак ад 500 да 900 рублёў. Кіроўцам-міжнароднікам тут абяцаюць ад 1500, электраманцёру і слесару – 450. Столькі ж прапануюць педагогу-арганізатару, які прыйдзе ў смаргонскую школу №5.

Повар, што будзе гатаваць для выхаванцаў дзясятага садка, атрымае 330 рублёў, сядзелка на паўстаўкі ў тэрытарыяльным цэнтры абслугоўвання – 165.

Тысяча рублёў – заробак праграміста, якога запрашаюць на прыватнае прадпрыемства. Як кандыдата гатовыя разгледзець студэнта. Столькі ж прапануюць дырэктарам супермаркетаў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 24.01 | 31.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1539 | **2.1584** |
| Еўра | 2.4471 | **2.4683** |
| Злоты, 10 | 5.7064 | **5.7447** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2489 | **3.2672** |
| Грыўня, 100 | 7.7276 | **7.7754** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 23.01 | 30.01 |
| Еўра | 2.4350/2.4550 | **2.4550/2.4750** |
| Долар ЗША | 2.1500/2.1680 | **2.1450/2.1620** |
| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
| ПРАДУКТЫ | 23.01 | 30.01 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,45 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,21 | **7,21** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,10 | **4,70** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,10 | **1,10** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,80 | **1,80** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,12** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,90 | **1,90** |
| Агуркі, 1 кг | 4,50 | **5,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,50** |
| Капуста, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | **2,20** |
| Морква, 1 кг | 0,99 | **0,99** |
| Памідоры, 1 кг | 4,80 | **5,90** |
| Перац, 1 кг | 5,80 | **5,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,00 | **4,80** |
| Ананас, 1 кг | 6,50 | **2,80** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Бананы, 1 кг | 2,50 | **2,39** |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Гранат, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Лімоны, 1 кг | 3,30 | **3,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,30 | **2,90** |
| Хурма, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,49 | **1,45** |
| Грэцкі арэх, ядро, 1 кг | 25,00 | **25,00** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Невядома, пад які цягнік трапіў. На Маладзечаншчыне знайшлі труп на чыгунцы

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося каля чатырох гадзін раніцы 27 студзеня.

Каля прыпыначнага пункта «Беразінскае» рушыў цягнік «Маладзечна-Ліда». Заўважылі, што на пераездзе на пуцях перашкода. Цягнік выканаў экстраннае тармажэнне. Памочнік машыніста пайшоў праверыць, што там, і ўбачыў труп.

Мужчына быў нежывы, паведаміў інспектар АУСТ **Сяргей Васілеўскі**.

Але пакуль незразумела, ён загінуў пад коламі гэтага цягніка ці раней.

Загінуламу 34 гады. Вядома, хто ён. Цяпер праводзяць праверку здарэння.

Чыгунка – зона павышанай небяспекі.

Таму на ёй неабходна выконваць наступныя меры бяспекі:

- пераходзіць чыгуначныя пуці толькі ва ўстаноўленых месцах
- не лезці пад вагоны цягніка
- не дазваляць дзецям гуляць на чыгуначных пуцях і побач з чыгункай
- звяртаць увагу на гукавую і светлавую сігналізацыю, якая папярэджвае пра набліжэнне цягніка
- не пераходзіць чыгуначныя пуці ў навушніках.

Згодна з Адміністрацыйным кодэксам, за пераход чыгункі ва неўстаноўленым месцы прадугледжаны штраф да дзвюх базавых велічынь, што складае 51 рубель.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Ад пяцісот рублёў – за акуня і двух шчупакоў: на Вілейскім вадасховішчы затрымалі браканьераў

ВІЛЕЙКА

Двух жыхароў Вілейкі затрымалі на Вілейскім вадасховішчы 25 студзеня ўвечары, распавёў «Рэгіянальнай газеце» намеснік начальніка Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету **Раман Лесін**.

Беспрацоўныя мужчыны мелі з сабой дзве рыбалоўныя сеткі. Незаконна яны злавілі двух шчупакоў і аднаго акуня. Агульная вага рыбы – два з паловай кілаграмы.

На кожнага парушальніка склалі адміністрацыйны пратакол. Цяпер ім пагражае штраф ад 510 да 1275 рублёў.

Акрамя таго, парушальнікі мусяць кампенсаваць шкоду навакольнаму асяроддзю – 178,5 рубля і кошт рыбы – 26,78 рубля.

Мядзельская інспекцыя просіць паведамляць пра выпадкі, калі парушаецца прыроднае заканадаўства, па тэлефоне **(8-01797) 50740** або ў Дзяржінспекцыю пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь – **(8-017) 39 00000**, або **102**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На Маладзечаншчыне гарэў малочнатаварны комплекс

МАЛАДЗЕЧНА

Пры пажары пашкоджанне малочнатаварнага комплексу ў вёсцы Бортнікі выгарала знутры цалкам, пашкоджаная мэбля.

25 студзеня ў 19:37 аб загаранні на малочнатаварным комплексе ў вёсцы Бортнікі Аляхновіцкага сельскага Савета паведаміў у МНС вартаўнік аб'екта.

Работнікі МНС пасля прыбыцця ўстанавілі, што гарыць адкрытым полымем бытоўка, прыбудаваная да будынка малочнатаварнага комплексу. Да прыбыцця падраздзяленняў МНС вывелі 50 галоў буйной рагатай жывёлы.

Верагодней за ўсё, прычынай пажару стала парушэнне правілаў эксплуатацыі печы тыпу «буржуйка».

У МНС нагадваюць, што выкарыстанне печаў не заводскага вырабу забаронена. У выпадку пажару трэба тэлефанаваць на 101 або 112.

**Аддзел інфармацыі.**

## Прыйшлі на працу і знайшлі труп аператара кацельні

ВАЛОЖЫН

Раніцай 20 студзеня работнікі Валожынскага льнокамбіната прыйшлі на работу і знайшлі аператара кацельні без прыкмет жыцця.

Мужчына ляжаў у шнэку для падачы пілавіння.

Загінулы – жыхар Валожына. Дакладную прычыну смерці вызначыць экспертыза.

– Правялі хімічную экспертызу. З яе высветлілі, што ў крыві загінулага быў алкаголь, – расказала афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Валожынскі РАСК праводзіць праверку, устанаўліваюць прычыны і абставіны здарэння, правяраюць дакументы, што тычацца тэхнікі бяспекі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Верагодна, трагедыя здарылася з-за неасцярожнасці пры курэнні.

# На пажары ў Вілейцы загінулі два браты

ВІЛЕЙКА

**Трагедыя здарылася ўдзень 26 студзеня на вуліцы Стаханаўскай. Выратавальнікам патэлефанавалі мясцовыя жыхары.**

Калі спецыялісты прыехалі на месца, з аднаго акна драўлянага дома вырываўся агонь. Дзверы былі зачыненыя знутры.

– Прыйшлося выбіць дзверы, каб група выратавальнікаў трапіла ў дом, – распавёў карэспандэнту інжынер групы нагляду і прафілактыкі Вілейскага РАНС **Аляксандр Казакевіч**.

Каля печкі выратавальнікі знайшлі аднаго непрытомнага мужчыну, за печкай – другога. Медыкі засведчылі смерць. Судмедэксперт па знешнасці загінулых вызначыў, што мужчыны атруціліся чадам.

Загінулыя – два браты 56 і 57 гадоў. Папярэдняя прычына – неасцярожнае абыходжанне з агнём падчас курэння.

Згарэла канапа, частка падлогі і сцяны ў адным з пакояў. У іншых пакоях закураныя маёмасць і сцены.

Матэрыялы для праверкі перадалі ў Вілейскі РАСК.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У вёсцы Дубрава 27 студзеня пры пажары загінуў мужчына

МАЛАДЗЕЧНА

У Дубраве Аляхновіцкага сельскага Савета 27 студзеня загінуў мужчына 1975 года нараджэння.

Жыхарка вёскі ў 22:08 паведаміла ў цэнтр аператыўнага кіравання Маладзечанскага гарраайаддзела па надзвычайных сітуацыях аб загаранні саломы.

Выратавальнікі, якія прыбылі да месца выкліку, выявілі адкрытае гарэнне жылога дома ў вёсцы на вуліцы Дзявочая Горка, абрушэнне даху і перакрыцця. Пры тушэнні пад пластом будаўнічых канструкцый быў знойдзены гаспадар дома.

Мужчына жыў адзін. Прычына пажару высвятляецца. Найбольш верагодная – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні.

Калі вы сталі сведкам надзвычайнай сітуацыі, неадкладна паведаміце пра гэта па тэлефонах 101 ці 112. Дакладна ўкажыце адрас і сітуацыю, якая адбылася, адкажыце выразна на пытанні, якія задае дыспетчар.

А таксама памятайце, што ўсталяваны ў жылых пакоях аўтаномныя пажарны апавяшчальнік у першыя секунды пажару паведаміць пранізлівым гукам пра бяду.

**Аддзел інфармацыі.**

## Мужчыну, які ў Маладзечне пашкодзіў аўтамабіль і дзверы рэстарана, затрымалі «па гарачых слядах» на снезе

МАЛАДЗЕЧНА

34-гадовы п'яны мужчына пашкодзіў аўтамабіль і дзверы рэстарана ў Маладзечне.

Ноччу 26 студзеня ў дзяжурную службу Маладзечанскага РАУС паведамілі, што на Вялікім Гасціцы невядомы пашкодзіў машыну, ударыў гаспадыню аўтамабіля і сышоў у невядомым кірунку. На месца здарэння выехала міліцыя.

Устанавілі, што, перасякаючы праезную частку дарогі, мужчына неабгрунтавана стукнуў нагой па кузаве машыны, якая рухалася побач. За рулём знаходзілася 21-гадовая мясцовая жыхарка. Яна зрабіла мужчыну заўвагу і атрымала ўдар рукой у корпус. Пасля чаго мужчына схаваўся ў дварах.

У ходзе правядзення аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў сышчыкі сумесна з супрацоўнікамі Маладзечанскага аддзела Дэпартамента аховы па слядах на снезе ўстанавілі месцазнаходжанне мужчыны і затрымалі яго.

Растлумачыць матывы свайго ўчынку ён не змог. Хутчэй за ўсё, каталізатарам стала вялікая колькасць выпітага. Крымінальную справу ўзбудзілі па артыкуле «Хуліганства». Санкцыя прадугледжвае да трох гадоў пазбаўлення волі.

Як аказалася, падазраваны ў начным хуліганстве папсаваў яшчэ і маёмасць.

Раніцай 27 студзеня ў міліцыю звярнуўся ўладальнік аднаго з рэстаранаў хуткага абслугоўвання з заявай, што невядомы мужчына ноччу нанёс некалькі ўдараў нагой па шкляных уваходных дзвярах ва ўстанову.

Супрацоўнікі міліцыі прагледзелі запісы з камер відэаназірання і пазналі фігуранта начнога інцыдэнту з машынай. Цяпер у дачыненні да яго распачалі і крымінальную справу па артыкуле «Апаганьванне будынкаў і псаванне маёмасці».

**Юлія КРУК,**
**афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскага РАУС.**

## У Ашмянах РАНС знайшоў парушэнні ў пажарнай бяспецы на «Радыётэхніцы»

АШМЯНЫ

Па выніках праверкі кіраўніку прадпрыемства далі рэкамендацыі па ліквідацыі парушэнняў.

Дзверы эвакуацыйных выхадаў на заводзе немагчыма адчыніць знутры без ключа. Адсутнічае неабходная колькасць першасных сродкаў пажаратушэння, пажарныя шчыты не ўкамплектаваныя неабходнай колькасцю супрацьпажарнага інвентару.

Няма знакаў пажарнай бяспекі, работнікі прадпрыемстваў не навучаныя па праграме пажарна-тэхнічнага мінімуму. Інструкцыя аб захаванні патрабаванняў пажарнай бяспекі, а таксама план эвакуацыі людзей не адпавядаюць патрабаванням. На баку дзвярэй вытворчых і складскіх будынкаў звонку адсутнічаюць паказальнікі катэгорый па пажарнай небяспецы.

Праз некаторы час работнікі РАНС зноў наведаюць прадпрыемства, каб пераканацца, што кіраўніцтва зрабіла ўсё неабходнае для бяспекі работнікаў.

**Аліна БЯЛІЦКАЯ,**
**паводле OSH.BY.**

ТЭМА НУМАРА

# Прызналася, што задушыла 8-гадовага сына

## Што вядома пра маладзечанку, якую падазраюць у забойстве

**Трагічнае здарэнне адбылося ў райцэнтры вечарам 26 студзеня. Жанчына пазваніла ў міліцыю і паведаміла, што задушыла свайго васьмігадовага сына.**

МАЛАДЗЕЧНА

Следчы камітэт распачаў крымінальную справу аб забойстве хлопчыка.

### Што паведамляе міліцыя

Паводле Упраўлення ўнутраных спраў Мінаблвыканкама, агледзелі кватэру. Па падазрэнні ў забойстве затрымалі маці загінулага. Падчас затрымання ў яе былі прыкметы псіхічнай хваробы, таму жанчыну шпіталізавалі, а ў медыцынскай установе выставілі пост аховы.

**Падазраванай прызначылі псіхолага-псіхіятрычную экспертызу. Следчыя высвятляюць матывы і абставіны злачынства.**

### Што вядома пра сям'ю

Падазраванай 29 год, працавала касірам у адным з сеткавых магазінаў. Адна выхоўвала сына. У кватэры жыла са сваёй маці і братамі.

Ніхто ў сям'і не стаяў на ўліку, не мелі крымінальнай ці адміністрацыйнай адказнасці. Не стаяла сям'я і на ўліку ў сацыяльна-небяспечным становішчы.

Хлопчык хадзіў у адну са школ Маладзечна.

### Што бачна па профілі ў сацсетцы

Пра здарэнне стала вядома ў панядзелак. У гэты дзень яе допісы на старонцы «Укантакце» праглядалі каля 300 чалавек. Ужо ў сераду тыя ж допісы праглядзела больш за 40 тысяч чалавек.

На сваёй старонцы яна была вечарам за два дні да трагедыі. Аватаркай размясціла здымак кіназоркі, а статусам словы: «У горадзе Маладзечна ганьба дапамагаць… у нас выжывае мацнейшы… адзін аднаго топім і робім розныя гадасці».

У стужцы шмат фотаздымкаў самой жанчыны, а таксама яе сына. Ёсць здымкі з сумесных прагулак. Яны абдымаюцца, гуляюць. Здымкі лайкалі 2-3 адныя і тыя ж знаёмыя.

Шчымліва глядзіцца фота, дзе яна абдымае сына і віншуе з днём нараджэння.

Некаторыя допісы паўтараюцца па некалькі разоў.

20 студзеня яна размясціла дзіўны пост: «Маладзечна будзе праклятае на 500 гадоў, рэкі слёз маці, дзяўчат, усё тое, што прыйшлося перажыць ёй, выпрабуе кожная сям'я, альбо сам горад будзе перайменаваны і будзе належаць Украіне. І гэта нават не праклён, а вынік вашых учынкаў і рашэнняў. Ваша злосць і халодныя сэрцы зрабілі гэты горад такім. І гісторыя такая ў выніку. Вы не заслугоўваеце добрага, таму што самі здзяйсняеце хаос і сееце злосць вакол».

І яшчэ: «Людзі ніколі не навучацца слухаць, чуць і разумець адзін аднаго. Толькі крытыкаваць, зайздросціць, зневажаць, забіваць і адзін аднаму хлусіць, а галоўнае, даказваць самому. Вось да чаго так імкліва развіваўся наш горад Маладзечна. А галоўнае, нашы дзяды ваявалі менавіта, напэўна, за гэта. Каб унукі і праўнукі пратравілі гэты горад у яму з гнілля і кожны чалавек прадаваўся за драбязу, як цацкі на прылаўку, не маючы гонару і годнасці».

**23 студзеня яна размясціла некалькі здымкаў сына рознага перыяду. Дэматыватар з накінутай на шыю дзяўчыне вяроўкай з надпісам «Усё будзе добра». І чалавека з выявай смерці пад подпісам: «Калі ў цябе куча праблем і раптам ты паміраеш».**




Фота са старонкі падазраванай у сацыяльных сетках.

### «Каб яна згарэла зажыва»

У абмеркаваннях здарэння ў сацыяльных сетках сустракаюцца розныя меркаванні. Многія не могуць паверыць, што гэта праўда і смуткуюць па хлопчыку. Некаторыя шкадуюць і маці, і сына, спасылаючыся, што яна хворая, а лёс вельмі цяжкі. Пішуць: «Давялі». Іншыя выказваюцца, што забойства дзіцяці не апраўдае нішто. Многія заклікаюць берагчы сваіх блізкіх і быць больш уважлівымі да іншых.

Ёсць і тыя, хто выказваецца жорстка і катэгарычна. Хацяў яшчэ справу не расследавалі і не было пастановы суда, яны гатовыя кінуць яе на самыя страшныя пакуты – «каб яна згарэла зажыва, каб яе як кошку разадралі», «кастрыраваць суку і адрубіць канечнасці», «расстраляць», «на электрычны стул яе».

### «Яна вельмі мілы, добры чалавек»

Расказаць пра жанчыну мы папрасілі яе былога калегу **Андрэя К.**:

«Я працаваў у сетцы цягам двух гадоў. Працаваў, як і яна, касірам.

У самым пачатку, калі я толькі пачынаў уліваццa ў калектыў, яна была адным з тых людзей, з якімі не проста ўвайсці ў кантакт. Гаварыла мала, кароткімі фразамі. Ад нейкіх гутарак на асабістыя тэмы заўсёды сыходзіла. Пры гэтым заставалася вельмі ветлівай. Ні разу нікога не пакрыўдзіла, ні з кім не сварылася. Вельмі мілы, добры чалавек. Пра такіх кажуць – «без каменя за пазухай». Ад такой не чакаеш падвоху, ведаеш, што не зробіць подласць. Тым яна і падабалася.

Паступова пачалі кантактаваць лепш. Аказваліся ў адным блоку – гэта калі два касіры сядзяць спіна да спіны. Калі не было пакупнікоў, размаўлялі. Не скажу, што яна цалкам давярала. Але ўсё ж я быў адным з тых, хто хацеў і стараўся з ёй сябраваць.

Ведаў, што яна маці адзіночка. Што ў яе ёсць браты і сястра і што з сястрой не кантактуе.

**Памятаю, спытаў, чаму, адказала: «Не ўяўляеш, як балюча, калі родны чалавек уганяе ў спіну нож, які немагчыма выняць». Паспрабаваў разгаварыць, але больш пра сястру нічога не сказала.**

Ёй часта рабілі заўвагі за спазненні на працу, яна нярэдка затрымлівалася і на паўгадзіны, і крыху больш. Памятаю, як плакала пасля чарговага «наганяю» ад начальства. Спытаў, у чым прычына спазненняў? Адказвала, што зусім адна і няма адкуль чакаць дапамогі. Сама адводзіць сына ў школу, а пасля спазняецца, таму што элементарна не можа разарвацца і ўсюды паспець.

Былі тыя, хто таксама спрабаваў ёй дапамагчы, гутарылі, давалі парады, спрабавалі весяліць. Яна ўсміхалася, як усе. Апошнія месяцы ўсмешка была нейкая вымушаная, ненатуральная. На ўсе пытанні адказвала, што стамілася.

Жартаваў, калі быў побач, стараўся выклікаць усмешку. Я заўсёды свята верыў у тое, што калі не можаш ці не ведаеш, як дапамагчы чалавеку, прымусь яго хаця б усміхнуцца.

Пра бацьку яе дзіцяці не ведаў увогуле нічога. Уяўлення не маю, чаму не з ёй. І ў чым прычына разрыву.

Пасля таго, як адбылося гэта жудаснае здарэнне, у мяне перад вачыма стаіць мой апошні дзень у краме. Калі развітваўся з калектывам, абдымаўся. Яна мяне не абняла, але сказала: «Шкада, што сыходзіш. Ты ўмееш прымусіць усміхнуцца, а то і пасмяяцца, мне гэтага будзе не хапаць».

Чалавек быў няшчасны. Гэта заўважалі тыя, хто хацеў, а астатнія праходзілі міма. Думаю, гэта адна з прычын зрыву. Вакол былі сталыя дасведчаныя людзі, наша кіраўніцтва. Яна шукала або псіхолага, або святара, не ведаю. Пераканаць яе выгаварыцца было неабходна. Можа, калі б з ёй хтосьці працаваў у псіхалагічнай сферы, то гэтага б не здарылася.

Нягледзячы на боль, які адчуваю пасля трагедыі, я і не здымаю, і не вешаю на яе віну. Хай кампетэнтныя органы разбяруцца ва ўсім і, наколькі гэта магчыма, адновяць яе псіхічны стан.

Што тычыцца абмеркаванняў – усім нам вельмі проста судзіць звонку, не паглыбляючыся ў сутнасць пытання. Вось толькі нашы меркаванні не зменяць таго, што здарылася. Лепш схадзіць у храм і паставіць свечку за спачын душы хлопчыка, а за саму жанчыну памаліцца.

Беражыце сваіх блізкіх і не будзьце безуважныя да лёсаў тых, хто акружае вас».

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# «Патрысію Каас амаль ніхто не слухае»

## Прадстаўнікі Францыі расказалі пра сучаснае становішча ў краіне

МАЛАДЗЕЧНА

**Сустрэчу з жыхаром Францыі «Быць французам: Міфы і рэальнасць» правялі ў бібліятэцы сямейнага чытання «Верасок» 29 студзеня.**



Бенжамен Тэрадэ расказвае маладзечанцам пра Францыю.

Наведнікі падзяліліся стэрэатыпамі пра французаў у размове з выкладчыкам **Бенжаменам Тэрадэ** з Бардо і Першым Саветнікам Пасольства Францыі ў Рэспубліцы Беларусь **Аляксандрам Піке**. Яны распавялі пра рэальнае становішча ў краіне. Сустрэчу ладзілі на французскай мове.

– Што прыходзіць у галаву, калі чуеце пра Францыю?

– Эйфелева вежа, гальскі певень, Марсельеза, круасаны. Гістарычныя асобы – Шарль дэ Голь, Жанна Д'Арк.

– У першую чаргу Францыя – гэта гісторыя. Калі яе не ведаць, Францыі быццам няма. Французы надзвычай цэняць гістарычныя факты. Гэта краіна – сумесь гальскай і рымскай культуры, – дзеліцца Тэрадэ.

У Францыі знялі фільм на гістарычных падзеях «Астэрыкс і Абелікс», у якім галы ваявалі з рымлянамі.

Калі французы наведваюць Беларусь, яны цікавяцца «гістарычнай карцінкай». Пытаюцца, ці ведаюць беларусы свае карані, продкаў.

У краіне жыве шмат нацыянальнасцяў, але калі французы расказваюць пра родную краіну, маюць на ўвазе чыстакроўных французаў.

Бенжамен скардзіцца, што ў замежнікаў краіна асацыюецца з Парыжам. Тым часам як у Парыжы жыве толькі кожны шосты грамадзянін.

### Французы часцей спяваюць на англійскай

Французскіх выканаўцаў – Патрысію Каас, Джо Дасана, Шарля Азнавура амаль ніхто цяпер не слухае.

– Ёсць куды больш сучасныя спевакі. Развіты рэп, рок, электронная музыка. Напрыклад, рок-гурт Phoenix, вядомы ў Францыі і ЗША. Французы часцей спяваюць на англійскай, бо на сусветнай сцэне гэта мова найлепш запатрабаная. Часам і не ведаеш, што гурт французскі, – кажа Піке.

### Эканомія – добрая якасць

На прапанову назваць негатыўныя бакі краіны ў зале чуецца: «французы – эканомныя, бясконца незадаволеныя». Піке тлумачыць: незадаволенасць – хвароба французаў, а эканомія – увогуле добрая якасць.

– А яшчэ вы кажаце, француз прымушае жонку шмат працаваць. У сям'і існуе роўнасць, французскія мужчыны і гатуюць, і выносяць смецце, і даглядаюць за дзецьмі, – расказвае Піке і пытаецца: – Што думаеце пра нашых жанчын?

– Элегантныя, шмат кураць, – даносіцца з залы і са смехам. – Ніколі не голяцца.

– Стыль адзення ў французжанак свабодны, натуральны. Калі звыкліся з уяўленнем, што жанчына элегантная, зайдзіце ў метро. Ці паглядзіце на тых, хто едзе ў вёску. Будзеце шакаваныя.

### Як ставяцца да беларусак

Па словах гасцей, беларускія жанчыны найпрыгажэйшыя ў свеце. У параўнанні з француженкамі, вельмі моцныя псіхалагічна. Выконваюць шмат функцый, сумяшчаюць кар'еру, дом, сям'ю.



Наведнікі сустрэчы.

А яшчэ бацькі ў Беларусі больш удзельнічаюць у выхаванні дзяцей, у школьным жыцці, цікавяцца вучобай і зносінамі сына ці дачкі. У Францыі існуе выразнае дзяленне «школа» і «прыватнае жыццё».

– Усе стэрэатыпы пра Францыю адносяцца да гістарычнага мінулага краіны. Нягледзячы на іх, запэўніваю, у якой бы вы сферы ні працавалі, французская мова заўжды спатрэбіцца ў жыцці, – рэзюмуе Піке.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

# Акцёра Сяргея Карзея павіншавалі з 6-годдзем

## А пасля даставілі «нуль»

МАЛАДЗЕЧНА

**Бенефіс вядучага артыста сцэны зладзілі 26 студзеня ў Мінскім абласным драматычным тэатры.**

Спачатку гледачоў чакаў спектакль «Любовь. Собак@. Точка. RU». Рускамоўны, па п'есе **Лявона Агулянскага**. Персанажаў двое. Яго выконвае Сяргей Карзей, Яе – **Людміла Рошчына**. Двое людзей сярэдняга ўзросту пазнаёміліся па перапісцы ў інтэрнэце. Яна рашылася прыехаць да яго пазнаёміцца.

Цягам п'есы акцёры ўзаемадзейнічаюць адзін з адным ці перамаўляюцца па тэлефоне з лепшымі сябрамі. Абодва страшна хвалююцца і думаюць, як паказаць сябе ў лепшым святле. Ён просіць сябра, каб даў кватэру на час, папрасіў яго прыкінуцца шафёрам і прывезці Яе. А калі Яна акажацца не прывабная, то і развярнуць назад.

Адразу ў іх усё не клеіцца. Шукаюць адзін у адным недахопы. Ён абшукаў ейную сумку і праверыў усе лекі. І іх набор зусім не абнадзеіў – «Перапісваўся з мадэллю, а прыехала сляпая з нетрыманнем мачы».

Яны хлусілі адзін аднаму і пра працу. Ён прыкінуўся пластычным хірургам, Яна рыэлтарам. Аднак чым больш паміж імі было хлусні, тым менш блізкасці.

І ў выніку Ён не вытрымаў, сказаў, што адзін аднаму не падыходзяць. Яна не была гатовая так лёгка здацца – «Дзе тут у мяне адрэзаць, што зрабіць, твар сцерці, толькі скажы, каб табе падабалася!». І тут герой Карзея падсумаваў праблему фразай: «Людзей робіць не скальпелем».

Чым закончылася гэта гісторыя і ці здолелі героі пераадолець сябе і раскрыць адзін аднаму праўду, глядзіце ў драматычным тэатры.



Сяргей Карзей.

### Каму спектакль спадабаецца

Сярод гледачоў пераважная большасць была жанчын. Нярэдка ў зале смяяліся ў адказ на жарты. Многія, выходзячы з залы, дзяліліся, што весела правялі час.

Узроставы цэнз спектакля ад 16 год. Тут ёсць фрывольныя жарты і гуллівы падтэкст, таму больш маладой публіцы спектакль не варта рэкамендаваць. А вось для кампаніі сталых сяброў, асабліва калі сярод іх ёсць тыя, хто ў чаканні кахання, добры спосаб бавіць вечар.

Калі ж вам нецікавыя рамантычныя камедыі і гуллівыя жарты, у рэпертуары драмтэатра знойдзецца шмат прапаноў зусім пра іншае.

### Як віншавалі юбіляра

Пасля з юбілеем акцёра віншавалі прадстаўнікі Маладзечанскага райвыканкама, Палаца культуры, прафсаюза. А дырэктар тэатра **Юры Крывенькі** ўручыў Ганаровую грамату ад Мінскага аблвыканкама.

Затым пачалося гумарыстычнае віншаванне ад калег. Акцёры паказалі дзіцячы садок вёскі Селеўцы, у якім нібыта свята – а на імяніннікa надзелі слюнявчык з лічбай «6». Іншыя «дзеці» ў розных касцюмах гарэзіліся і свавольнічалі, а «выхавальніца» ўсё прыгаворвала, што іншыя дзеці ўсё робяць не так, а «Серёжа молодец». На апошняй песеньцы да лічбы «6» прыклеілі «0».




Калегі юбіляра інсцэніравалі дзіцячы садок.

На сцэну вывезлі торт з запаленымі свечкамі, юбіляр загадаў жаданне і пагасіў іх. А калегі пачалі абдымаць і віншаваць з 60-годдзем.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота аўтара.**

# Песні бардаў не заменіць нічога

**Раённы конкурс аўтарскай песні адбыўся ў маладзечанскім цэнтры творчасці дзяцей і моладзі «Маладзік» 25 студзеня, у дзень нараджэння Уладзіміра Высоцкага.**

Вечар прайшоў у сяброўскай цёплай атмасферы і цалкам апраўдваў сваю назву «Спяваем разам з сябрамі». Прыехалі таленавітыя ўдзельнікі з розных школ і гімназій, якія спявалі выключна пад жывую музыку, гукі гітары, скрыпкі, барабана і сінтэзатара. Зала была поўная, падтрымаць удзельнікаў прыйшлі іх родныя і блізкія.

У конкурсе былі тры намінацыі: «Выканальніцкая», дзе выконваліся песні іншых аўтараў, «Песня Высоцкага» і «Аўтарская». У апошняй намінацыі выступіла адна ўдзельніца з гімназіі №10 – **Марыя Ключнік**.

Песню «Свята для мамы» яна прысвяціла самаму любімаму чалавеку і ўпершыню выканала яе ў Дзень маці.

Яркім, моцным вакалам вызначылася **Дыяна Яркевіч**, вучаніца СШ №14, якая атрымала два дыпломы ў розных намінацыях. Перамогу ёй прынесла «Песня Кэрала» з серыі дзіцячых песень Высоцкага.

Рэкардсменамі па колькасці дыпломаў (па чатыры) сталі клуб аўтарскай песні «Свечка» цэнтра творчасці «Маладзік» і калектыў аўтарскай песні гімназіі №10.

Напрыканцы мерапрыемства члены журы паказалі майстар-клас.

Бацька і дачка **Сяргей** і **Анастасія Шыманы** выканалі раманс. А **Валеры Мурычын** праспяваў пад гітару некалькі лірычных песень.

Старшыня журы, рэжысёр і аўтар-выканаўца **Аляксандр Бялоў** падзяліўся сваімі ўражаннямі:

– Самае галоўнае, што сёння ў зале тыя, хто любіць бардаўскія песні, каму гэта цікава. Мы рады, што з намі тыя, хто складае вершы, піша музыку, выконвае песні. Таму што жывую музыку не заменіць ні пласцінка, ні магнітафон, ні інтэрнэт. Гэта нашы жывыя зносіны, магчымасць падзяліцца тым, што набалела, што ў цябе на душы.

**Анастасія ШУМІЛАВА,**
**навучэнка школы журналістыкі «Маладзік».**

## Закончыўся сезон палявання на зайца, норку, вавёрку, куніцу, андатру, тхара

Мядзельская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету нагадвае, што 27 студзеня закончыўся сезон палявання на зайца-беляка, зайца-русака, вавёрку, куніцу лясную, куніцу каменную, норку амерыканскую, андатру, тхара ляснога.

Забарона на здабычу зайца-беляка і зайца-русака будзе дзейнічаць ад 28 студзеня да 4 кастрычніка ўключна, а на здабычу вавёркі, куніцы ляснoй, каменнай куніцы, норкі амерыканскай, андатры, тхара ляснога – ад 28 студзеня да 1 лістапада ўключна.

За паляванне на гэтых звяроў у забаронены час пагражае адміністрацыйная альбо крымінальная адказнасць. Акрамя таго, парушальніку давядзецца пакрыць шкоду, прычыненую навакольнаму асяроддзю, і кошт незаконна здабытай прадукцыі.

Мядзельскай міжраённай інспекцыяй сумесна з іншымі прыродаахоўнымі і праваахоўнымі органамі пастаянна праводзяцца мерапрыемствы па выяўленні браканьерства.

Калі вам стала вядома пра факты парушэння прыроднага заканадаўства, то тэлефануйце на нумар **8-01797- 50-7-40** ці на «тэлефон даверу» Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і раслінннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь – **8 017 39 00000** або на **102**. Усю атрыманую інфармацыю абавязкова правераць.

**Раман ЛЕСІН,**
**намеснік начальніка Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслінннага свету.**

## Раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі ў Астраўцы ўзначаліў новы кіраўнік

**АСТРАВЕЦ**

Астравецкі раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі ўзначаліў **Ёнас Мар'янавіч Таль**.

Ёнас Мар'янавіч нарадзіўся ў 1989 годзе ў Літве, потым сям'я пераехала на Астравеччыну.

Пасля заканчэння Гудагайскай СШ ён паступіў у Беларускі дзяржаўны медуніверсітэт на медыка-прафілактычны факультэт. Інтэрнатуру праходзіў у Астравецкім раёне, тут жа – у раённым цэнтры гігіены і эпідэміялогіі – пачынаў працоўную дзейнасць на пасадзе доктара-гігіеніста.

Загадваў аддзяленнем гігіены працы Мазырскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, працаваў галоўным санітарным доктарам Кармянскага раёна Гомельскай вобласці.

9 студзеня Ёнас Мар'янавіч прызначаны галоўным санітарным доктарам Астравецкага раённага ЦГЭ.

Жанаты, выхоўвае двухгадовую дачку Ліяну.

**Паводле OSTROVETS.BY.**

## Зладзяць спеўны сход з унікальным мужчынскім фольк-гуртам «Рада»

**МАЛАДЗЕЧНА**

1 лютага па Лібава-Роменскай, 71 правядуць спеўны сход з удзелам фольк-гурта «Рада». Пачатак у 18:30. Уваход вольны.

«Спяваць можа кожны!» – так лічыць стваральнік і кіраўнік праекта «Спеўны сход» **Сяржук Доўгушаў**.

Не толькі лічыць, але і актыўна ўвасабляе ў жыццё праз штомесячныя сустрэчы, на якіх людзі спяваюць разам беларускія песні.

Вядучая – **Вольга Трубач**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Хочаце вырашаць праблемы ў сваёй мясцовасці? Вучыцеся, як

Офіс еўрапейскай экспертызы і камунікацыі запрашае на навучальны курс, дзе можна даведацца, як развіваць мясцовыя супольнасці, уключаючы ўсіх.

Удзельнічаць могуць людзі любога ўзросту і з рознымі захапленнямі. Запрашаюць удзельнікаў з розных гарадоў і мястэчак Беларусі. Галоўнае, каб удзельнікі імкнуліся зрабіць месцы, у якіх жывуць, больш камфортнымі, утульнымі, даступнымі і прывабнымі.

Праводзіць заняткі будуць у Мінску.

Расклад трэнінгаў

**2-3 лютага.** Як прыдумаць крэатыўную ідэю для сваёй супольнасці.

**23-24 лютага.** Як з ідэі стварыць ініцыятыву і вырашыць праблему праз актыўны ўдзел супольнасці, уключаючы ўсіх.

**6-7 красавіка.** Як стварыць сваю ініцыятыву больш заўважнай: адвакатаванне і праца з медыя.

Каб далучыцца да ўдзелу ў навучальным курсе, трэба падаць заяўку на адбор. Заяўку запаўняюць на спасылцы oeec.by/training-course-solving-local-problems/.

Заяўкі прымаюць да 30 студзеня ўключна.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Карэспандэнт «Рэгіянальнай газеты» Аксана Ярашонак уручае падарунак пераможцы акцыі «Супергаспадар» Валянціне Мамай.

# Мы ўзнагародзілі пераможцу акцыі «Супергаспадар»

**ВІЛЕЙКА**

**Днямі рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты» ўзнагародзіла Валянціну Мамай з Вілейкі, якая перамагла ў акцыі «Супергаспадар».**


Фота забяспечанае Валянцінай МАМАЙ.

Фотаздымак, які назбіраў найбольш галасоў.

У традыцыйнай восеньскай акцыі было пяць удзельнікаў. Агульная колькасць галасоў – 1352. За **Валянціну Мамай** прагаласавала больш за палову.

Мы ўручылі Валянціне падарунак за перамогу. А жанчына расказала нам пра шчанюкоў-сенбернараў і пра тое, чаму вырашыла ўдзельнічаць у конкурсе.

Пра «Супергаспадара» Валянціна даведалася, прачытаўшы абвестку ў папяровай версіі газеты.

– Падумалася: чым мы не супергаспадары? Сенбернараў выгадавалі! – дзеліцца Валянціна.

Шчанюкі нарадзіліся ў Ады – сабакі-сенбернара, які жыве ў дачкі Валянціны – **Людмілы Бяўзо**. Некалькі год таму сям'я завяла сенбернара, бо гэта, па словах нашай пераможцы, вельмі добры ахоўнік і ласкавы сябар, добра разумее і выконвае каманды.

Дачка Валянціны працуе фельчарам. Сёлета ў маі яна прыняла роды ў Ады. Нарадзілася сем здаровых шчанюкоў.

– Гадаваць малых сенбернараў нялёгка, – прызнаецца Валянціна Мамай. – Дачка працуе, таму я ўвесь час дапамагала ёй са шчанюкамі. Спачатку іх трэба было карміць кожныя дзве гадзіны. Да Ады адразу клалі чатырох шчанюкоў. Калі тыя пад'ядуць, мама-сабака паварочвалася на другі бок і да яе клалі яшчэ трох. Потым так рабілі праз тры гадзіны, затым – праз чатыры. І так два месяцы.

Усіх сабачак распрадалі. Цяпер жывуць вілейскія сенбернары ў Латвіі, Швецыі, Расіі і розных гарадах Беларусі. За мяжу сабак вазілі самі гаспадары.

**А жыхарка Швецыі па вілейскага шчанюка спецыяльна прыязджала на пароме ў Талін.**

З новымі гаспадарамі сабак віляйчане не губляюць сувязі, атрымліваюць фотаздымкі і відэа з-за мяжы.

Па словах Валянціны, за яе галасавалі знаёмыя і незнаёмыя людзі. Некаторыя нават у асабістыя паведамленні пісалі пра тое, якая гэта нялёгкая праца – гадаваць сенбернараў.

Таксама жанчына прызналася, што па жыцці ёй шанцуе. І не толькі на перамогі ў акцыях. Пашанцавала з мужам, дачкой, унукамі.

– Я люблю, каб у двары ўсё было прыгожа, дагледжана: кветкі, сад, агарод. У дачкі ў Вілейцы прыватны дом. Я ёй заўсёды дапамагаю. Таксама працую на лецішчы – у бацькоўскім доме ў Вайдзенях, – падсумавала Валянціна.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

### Беларусь 1

**6.45** Х/ф **«Я ТЕБЯ НИКОМУ НЕ ОТДАМ».**
**8.20** Клуб редакторов.
**9.00, 12.00, 15.00** Новости.
**9.10** «Арсенал». Программа об армии.
**9.45** Зона Х. Итоги недели.
**10.20** Маршрут построен. Мстиславль.
**11.00, 12.35** Т/с **«СВАТЫ 3».**
**12.10** Новости. Центральный регион.
**13.30** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.
**15.15** Твой город.
**15.30** Вокруг планеты.
**16.15 Т/ф «ВСЕ ПУТЕМ».**
**16.40** Х/ф **«ДВА БЕРЕГА НАДЕЖДЫ».**
**20.40** Навіны надвор'я.
**21.00** Главный эфир.
**22.10** Х/ф **«ЛИЧНОЕ ПРОСТРАНСТВО».**

### Беларусь 2

**7.00** М/с «Машкины страшилки».
**7.20** Х/ф **«ТРИ ЗОЛОТЫХ ВОЛОСА».**
**8.50, 19.50** Телебарометр.
**8.55** Т/с **«ЧИП И ДЕЙЛ СПЕШАТ НА ПОМОЩЬ».**
**9.40** «Мир наизнанку. Непал». Трэвел-шоу.
**10.40** «ЖаннаПожени». Реалити-шоу.
**11.40** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ОТ ВСЕХ БОЛЕЗНЕЙ».**
**13.25** Х/ф **«ТРАНСФОРМЕРЫ: ПОСЛЕДНИЙ РЫЦАРЬ».**
**15.55** «Папа попал». Реалити-шоу.
**17.40** «Битва экстрасенсов. 18-й сезон». Реалити-шоу.
**20.25** «Обмен женами 2». Реалити-шоу.
**22.00** КЕНО.
**22.05** «Третий лишний». Реалити-шоу.

**23.00** «Сыграй меня, если сможешь».
**23.35** «Орел и Решка. Кругосветка». Трэвел-шоу.

### Беларусь 3

**7.35** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**8.00, 14.15, 20.15** Навіны культуры.
**8.15, 14.30, 20.30** Гэты дзень.
**8.20** Мультфільм.
**8.30** «Асенні марафон». Мастацкі фільм.
**10.00** «Наперад у мінулае».
**10.30** «Беларуская кухня». Пірог з трусяцінай.
**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».
**11.50** «Самы апошні дзень». Мастацкі фільм.
**13.20** «Майстры і куміры». Народны артыст Беларусі Міхаіл Дрынеўскі.
**14.35** «Душою дакрануцца да нябёс...» Канцэрт памяці заслужанага артыста БССР Анатоля Каштапапава.
**16.05** «Паўстанак». Мастацкі фільм.
**17.15** «Дзяржаўная граніца». Фільм пяты «Год сорак першы».
**19.35** «Арт-гісторыі». «Гульні Пікаса» ў кераміцы. Гісторыя неспадзяванага дару Надзеі Лежэ.
**20.00** «Архітэктура Беларусі».
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Двойчы народжаны». Мастацкі фільм.
**22.30** «Артэфакты». Самшытавы грэбень з выразаная на ім азбукай-кірыліцай пачатку XIII ст.
**22.55** «Майстэрня. Гісторыя аднаго мастака». Міхаіл Гулін і Антаніна Слабодчыкава.

### ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».
**7.10** Х/ф **«БУЛЬ И БИЛЛ».**
**8.40** ОНТ представляет: «Метеогид».
**9.10** «Воскресная проповедь».
**9.25** «Здоровье».
**10.35** «Непутевые заметки».
**11.15** «О чём молчал Вячеслав Тихонов».
**12.15** Т/с **«СЛАБАЯ ЖЕНЩИНА».**
**16.20** «Три аккорда».
**18.10** Премьера. «Главная роль».
**20.00** «Контуры».
**21.05** Х/ф **«Я ЛЮБЛЮ СВОЕГО МУЖА».**
**0.40** «Что? Где? Когда?». Дети XXI века.

### СТВ

**6.00** «Живая тема».
**7.35, 20.35** Документальный спецпроект.
**10.00** «Центральный регион».
**10.30** Документальный проект.
**11.30, 13.40, 16.40** Т/с **«МАРШРУТ».**
**13.30, 16.30** «24 часа».
**19.30** «Неделя».
**23.00** «Неделя спорта».
**23.30** «Анекдот Шоу с Вадимом Галыгиным».
**0.05** Т/с **«МЕТОД».**

### Мир

**6.00, 6.30, 7.35, 8.35** Мультфильмы.
**6.15** «Миллион вопросов о природе».
**7.05** «Беларусь сегодня».
**8.05** «Культ/туризм».
**8.55** «Еще дешевле».
**9.25, 3.30** «Наше кино. История большой любви».
**10.00, 16.00** Новости.
**10.15, 16.15, 19.30, 1.00** Т/с **«ЖИТЬ СНАЧАЛА».**
**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».
**4.00** Т/с **«ДЕРЕВЕНСКИЙ РОМАН».**

### НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».
**6.05** Terra incognita. Беларусь неизвестная.
**6.40, 22.45** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Домиевой.
**7.10** Т/с **«АГЕНТ ОСОБОГО НАЗНАЧЕНИЯ».**
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «Устами младенца».
**9.15** «Кто в доме хозяин?».
**10.25** «Первая передача».
**11.00** «Чудо техники».
**11.55** «Дачный ответ».
**12.55** «НашПотребНадзор».
**13.50** «Поедем, поедим!».
**14.25** Т/с **«ОМУТ».**
**16.25** «Следствие вели...».
**18.05** «Новые русские сенсации».
**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.
**20.10** Х/ф **«ПЁС».**
**23.15** «Даниил Гранин. Исповедь».

### БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ОДНАЖДЫ И НАВСЕГДА».**
**8.45** Х/ф **«ДОМРАБОТНИЦА».**
**10.30** «Смехопанорама».
**11.00** ВЕСТИ.
**11.20** «Сам себе режиссер».
**12.15** «Утренняя почта».
**13.00** «Когда все дома» с Тимуром Кизяковым».
**14.00** «Далекие близкие» с Борисом Корчевниковым.
**15.30** ПРЕМЬЕРА. «Юмор! Юмор! Юмор!!!».
**17.40, 21.45** Х/ф **«ВЕРА».**
**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.
**23.05** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.
**23.55** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**8.10** Паутина лжи. **10.50** Агент Джонни Инглиш: Перезагрузка. **13.00** Лучше не бывает. **15.45** Мрачные тени. **18.05** Предчувствие. **20.10** Васаби. **22.10** Я не знаю, как она делает это. **0.05** Мобильник. **2.10** Молодёжь. **4.05** Тревожный вызов.

### TV1000 ACTION

**7.05** Миссия: Неадекватна. **9.00** Эверли. **10.55** Ворон. **13.05** Детоксикация. **15.00** Шесть демонов Эмили Роуз. **17.20** Громобой. **19.15** Овердрайв. **21.10** Линкольн для адвоката. **23.25** Проклятие 2. **1.25** Стеклянный дом. **3.25** Гринго. **5.10** Секретный агент.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.20** Одноклассницы: Новый поворот. **8.00** Тесты для настоящих мужчин. **9.30** Волкодав из рода Серых Псов. **12.20** Старое доброе кино: 4:0 в пользу Танечки. **14.15** После тебя. **16.40** Тёмный мир: Равновесие. **18.30** Детки напрокат. **20.20** Рубеж. **22.20** Небесный суд. **0.20** Код апокалипсиса. **2.25** Трудно быть Мачо. **4.20** Клуши.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.00, 10.45, 11.30, 12.30** Т/с **«ЭЛЕМЕНТАРНО». 13.15** Х/ф **«ТРУДНАЯ МИШЕНЬ». 15.15** Х/ф **«ПАДЕНИЕ ОЛИМПА». 17.30** Х/ф **«ПАДЕНИЕ ЛОНДОНА». 19.30** Х/ф **«ПОГОНЯ». 21.45** Х/ф **«УБИЙЦА». 0.00** Х/ф **«СКВОЗНЫЕ РАНЕНИЯ». 2.00** Х/ф **«ОГОНЬ ИЗ ПРЕИСПОДНЕЙ». 4.00** Х/ф **«АНАКОНДА: ЦЕНА ЭКСПЕРИМЕНТА». 5.15** «Предсказания на 30-ти языках».

### ФЕНИКС

**8.00, 16.00, 0.00** Т/с **«ВОЛЬФ МЕССИНГ: ВИДЕВШИЙ СКВОЗЬ ВРЕМЯ». 9.00, 10.00, 17.00, 18.00, 1.00, 2.00** Т/с **«ОБЩАЯ ТЕРАПИЯ». 11.00, 12.00, 19.00, 20.00, 3.00, 4.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ ПО ПРИКАЗУ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ИДЕАЛЬНАЯ ПАРА». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ЗА ВСЕ ТЕБЯ БЛАГОДАРЮ 2».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.55** Х/ф **«ОПРОМЕТЧИВЫЙ». 2.45** Х/ф **«М+Ж». 4.20** Х/ф **«АФЕРИСТЫ ПОНЕВОЛЕ». 6.05** Х/ф **«РЫЦАРИ КОРОЛЕВСТВА КРУТИЗНЫ». 7.45** Х/ф **«БАРХАТНЫЕ РУЧКИ». 9.45** Х/ф **«ЗАЩИТНЕГ». 11.40** «Кухня». **13.55** Х/ф **«ШЕФ». 15.35** Х/ф **«СУПЕРГЕРОЙСКОЕ КИНО». 17.10** Х/ф **«ЗЕЛЕНЫЙ ШЕРШЕНЬ». 19.30** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ». 21.05** Х/ф **«ЗАЯЦ НАД БЕЗДНОЙ». 22.55** Х/ф **«БОЛЬШЕ, ЧЕМ ДРУГ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.00, 1.00, 1.55, 3.00, 4.00, 5.05, 6.00** Военнопленные. **7.10, 8.10, 9.10, 10.05, 11.05, 12.00, 13.00, 14.00** Сговор. **15.00, 15.55, 17.00, 18.00, 19.05, 20.10, 21.10, 22.15** Смерть в раю. **23.20** Зыбь.

### ВТВ

**6.00, 7.20, 8.15, 9.10, 10.55, 11.55, 12.55, 13.55, 15.20, 19.05, 22.40, 0.05, 1.45** Прогноз погоды на неделю. **6.05** Т/с **«ПАПИНЫ ДОЧКИ». 7.25, 2.40** Скетч-шоу «6 КАДРОВ». **8.20, 1.50** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **9.15** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **9.35** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.00** Мультфильмы «МАША И МЕДВЕДЬ». **10.25** Скетч-шоу «ОСТОРОЖНО: ДЕТИ!». **11.00, 19.10** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **12.00** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **13.00** Make-over шоу «УСПЕТЬ ЗА 24 ЧАСА». **14.00, 22.45** Скетч-шоу «НЕРЕАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ». **15.25** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИКИ». 17.15** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИКИ 2». 20.30** Х/ф **«БУРЛЕСК». 0.10** «ХОЧУ ВЕРИТЬ!» с Борисом Корчевниковым. **4.00** «ЛОВИ МОМЕНТ». **5.00** «ДУРАКИ И ДОРОГИ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.10** Смешанные единоборства. Минск. **8.15** Дзюдо. Чемпионат Беларуси. **10.20** Биатлон. Этап Кубка мира. Кэнмор. Эстафета. Женщины. **11.55** Пит-стоп. **12.30** Теннис. Кубок Федерации. Превью. **13.00** Теннис. Кубок Федерации. Германия – Беларусь. Матчи одиночного разряда. **17.00** Теннис. Кубок Федерации. Германия – Беларусь. Матч парного разряда. **18.50** Спорт-центр. **20.55** Биатлон. Этап Кубка мира. Кэнмор. Масстарт. Мужчины. **21.55** Волейбол. Открытый чемпионат России. Минчанка – Уралочка-НТМК. **23.50** Биатлон. Этап Кубка мира. Кэнмор. Масстарт. Женщины. **0.45** Итоги недели.

### EUROSPORT 1

**0.00, 2.15, 8.30, 13.30** Горные лыжи. Чемпионат мира. Оре. Мужчины. Скоростной спуск. **0.30** Биатлон. Кубок мира. Кэнмор. Женщины. Эстафета. **2.45** Велоспорт. «Вуэльта Валенсии». 4-й этап. **3.30, 6.30** Снукер. Мировой Гран-при. Престон. 1/2 финала. **5.00, 9.30** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Лахти. Мужчины. HS 130. Команды. **10.30** Санный спорт. Кубок мира. Оберхоф. Мужчины. 2-я попытка. **11.00** Санный спорт. Кубок мира. Оберхоф. Женщины. 1-я попытка. **12.00** Санный спорт. Кубок мира. Оберхоф. Двойки. 2-я попытка. **12.30, 16.00** Санный спорт. Кубок мира. Оберхоф. Женщины. 2-я попытка. **14.15, 21.50** Горные лыжи. Чемпионат мира. Оре. Женщины. Скоростной спуск. **16.30** Велоспорт. «Вуэльта Валенсии». 5-й этап. **18.00** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Лахти. Мужчины. HS 130. **20.00** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Лахти. Гонка преследования. **20.45** Биатлон. Кубок мира. Кэнмор. Мужчины. Масс-старт. **22.45** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Оберстдорф. HS 225. **23.45** Биатлон. Кубок мира. Кэнмор. Женщины. Масс-старт.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 12.40, 20.45, 0.05, 4.35** Проверка на дороге. **6.15, 22.25** Наезд! **6.30, 17.10, 1.45** Тайный покупатель. **7.00, 17.45** Стальные парни. **8.30, 10.10, 12.55, 16.30, 19.15, 23.50, 2.00, 3.50** Итоговые новости. **8.45** Автодрайв 2019. **9.15, 10.25** Под микроскопом. **9.25** Назад в СССР. **9.45** Сравнительный тест. **10.40** Вечер с Пикуленко. **11.20, 19.30, 22.35** Металлоломщики. Сезон 1. **12.10, 20.15, 23.20, 4.05** 9 злобных водителей. **13.10** Комплектация. **13.35, 0.20** Вторичка. **13.50** Автодело. **14.20, 0.50** Испытание на прочность. **14.45** Мото-тест. **15.00, 1.15** Народный тест драйв. **15.30, 21.00, 4.50** Автомобильные музеи мира. **16.00, 21.30, 2.10, 5.20** Сделано в России. **16.45, 2.40** Сделаем как надо. **22.00** Советы для каждого. **0.35** Эконом-тест. **3.10** Советы юриста. **5.45** Обновление.

### EXPLORE

**6.00, 6.55, 7.50, 8.45** Большое рыболовное состязание. **9.40, 18.50** Бойня. **10.30, 11.20, 12.10, 13.00, 13.50, 14.40** Австралийские золотоискатели. **15.30, 16.20** Речные чудовища. **17.10, 17.30** Гараж: Последний приют. **18.00** Переделка старья. **19.40** Отбор: Великобритания. **20.30** Наука трюка. **21.20** Масштабные инженерные ошибки. **22.10** Крановщики. **23.15** Строительство гигантов. **0.10** Строители суперкаров. **1.05, 1.30** Полигон. **2.05, 2.25** Переезд вместе с домом. **2.50, 3.40** Уникальные дома из дерева. **4.30** Самые опасные дороги мира. **5.30** Братские проекты.

### HISTORY

**6.10, 6.40, 7.05, 7.35, 5.10, 5.40** Невероятные изобретения. **8.05, 8.55, 3.30, 4.20** Музейные тайны. **9.45, 10.40, 11.30** Помпеи: 48 часов до катастрофы. **12.20, 13.10** Коварная Земля. **14.00, 14.25** Родовые проклятья. **14.55, 15.45** Смертоносный интеллект. **16.35** Невидимые города Италии. **17.30, 18.20, 2.40** Запретная история. **19.10** Вторая мировая в цвете. **20.05** Мощь вулканов. **21.05** Настоящая игра престолов. **21.50** Иудея и Рим: фатальный конфликт. **22.45** Близко к врагу. **23.50** Российская империя: династия Романовых. **0.55** Елизавета I и ее враги. **1.45** Тридцатилетняя война – Железный век.

### NATURE

**6.00, 6.25, 6.55, 7.20, 7.50, 8.15** Пол О'Грэди: из любви к собакам. **8.45, 9.45, 10.45** Не вините собаку. **11.45, 12.40, 13.35** Приключения китов с Найджелом Марвеном. **14.25, 15.20, 16.15** Великие миграции в природе. **17.10** Могучие реки. **18.00** Тьма: мир ночной природы. **19.00, 22.50** Жизнь: первые шаги. **19.55, 21.00, 23.45, 0.45** Я и моя собака: на пределе возможностей. **22.00** Хищные питомцы. **1.45, 2.40, 3.35** Дикий инстинкт. **4.30, 5.00, 5.30** Новорожденные в зоопарке.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**0.20, 1.10** Неизвестный Китай. **2.00** Международный аэропорт Дубай. **2.45, 3.30** Расследования авиакатастроф. **4.20** Реальность или фантастика? Сезон 1. **4.50** В погоне за НЛО. **5.35** Научные глупости. **6.00** Зона строительства. **6.30, 7.15** Мегазаводы. **8.00, 8.50** Авто – SOS. **9.35** Дикий тунец: Север против юга. **10.20, 11.10** Дикий тунец. **12.00, 12.40** Инстинкт выживания, Китай. **13.30, 21.20** Потерянные мумии Новой Гвинеи. **14.15** Мумии, застывшие во времени. **15.00** Фидель Кастро: Потерянные Плёнки. **15.45** Настольная книга диктатора. **16.35, 22.45** Осушить океан: затонувший город пиратов. **17.25, 23.35** Вторая мировая война: осушение океана. **18.10** Осушить океан. **19.00, 19.20, 22.00, 22.20** 1989 Год, сотворивший современный мир. **19.45** Тайны гуансийских пещер. **20.30** Китайская мегагробница.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.40** Охота и рыбалка в. **6.30, 23.10** Поймай и сними. **6.55, 12.15, 18.10, 0.10** Поймать монстра. **7.45** Охотничьи традиции и этика. **8.00, 19.30** Поймать лосося. **8.30, 20.00** Нахлыст. **9.00, 15.35, 20.30, 2.55** Зов предков. **9.30, 16.05, 21.05, 3.25** Морская подводная охота. **10.00, 21.35** На охотничьей тропе с Сергеем Астаховым. **10.35, 22.05** Охота в Белоруссии. **11.05, 17.35, 0.55, 5.00** Водоемы России. Рыбинское водохранилище. **11.40, 19.00, 1.25, 5.30** В поисках хорошего клева. **13.05** Рыбалка сегодня XL. **13.35** Научи меня рыбачить. **14.05** Егерский кордон. **14.35, 2.00** Рыбалка-шоу ТВ. **15.05** На рыбалку с охотой. **16.40, 4.05** Рыбалка сегодня. **16.50, 4.20** Универсальный фидер. **17.20, 4.45** Первый лед последний лед. **23.40** Зимняя рыбалка в Удмуртии. **2.25** Ружейная охота. Первые шаги. **3.50** Следопыт.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 13.55, 18.05, 22.20** Большие идеи для маленького сада, сезон 3. **7.05, 15.00, 19.05, 23.25** Варенье. **7.15, 11.15, 15.15, 19.25, 23.40, 3.30** Дизайн своими руками. **7.45, 11.45, 15.45, 19.55, 0.10, 3.55** Ремонт для начинающих. **8.15, 12.15, 16.20, 20.25, 0.40, 4.20** Старые дачи. **8.50, 21.00, 1.10, 4.50** Сельсовет. **9.05, 12.50, 21.15, 1.25, 5.05** Народные умельцы. **9.40, 13.25, 17.35, 21.50, 1.55, 5.35** Миллион на чердаке. **17.05** Огород круглый год. **2.20** Домашняя косметика! **2.35** Баня женского рода. **2.50** Кухня народов СССР. **3.00** Милости просим.

### SETANTA SPORTS

#### ПЯТНИЦА

0.30**, 8.4**5, 17.15 Бокс. Обзор. 1.00 Футбол. Чемпионат ИталиИ. **«К**альяри» – «АталанТа». 2.45 «Сетанта Спорт». 3.00, 17.45 Хоккей. НХЛ. **«Вашингтон»** – «Колорадо». 6.00, 16.45 Футбол. ЧЕмпиОнат Шотландии. Обзор. 6.30 Футбол. Чемпионат ИсПАНИИ. **«ЭЙБАР» – «ЖИРОНА». 8.15** Дрим Тим. Нью-Йорк Никс\ NBA. **9.45** Футбол. Чемпионат Франции. Обзор. **10.45** Футбол. Чемпионат Испании. Обзор. **11.45** Футбол. Чемпионат Италии. Обзор. **12.45** Футбол. Чемпионат Италии. «Лацио» – «Эмполи». **14.30** Футбол. Чемпионат Бельгии. «Брюгге» – «Гент». **16.15** Звёзды футбола. **19.45** Футбол. Чемпионат Франции. «Марсель» – «Бордо». **21.30** Дрим Тим. Чемпионат Италии\Боруссия. **22.00** Бессмертные. Моуринью\Джеррард\Суарес\Кака. **22.25** Футбол. Чемпионат Италии. «Кьево» – «Рома».

#### СУББОТА

**0.30** Футбол. Чемпионат Шотландии. Обзор. **1.00, 12.45, 18.00** «Сетанта Спорт». **1.15** Футбол. Чемпионат Италии. «Фрозиноне» – «Лацио». **3.00** Футбол. Чемпионат Франции. Обзор. **4.00, 20.15** Хоккей. НХЛ. «НЙ Рэйнджерс» – «Каролина». **7.00** Бокс. Обзор. **7.30** Футбол. Чемпионат Италии. «Ювентус» – «Парма». **9.15** Футбол. Чемпионат Италии. «Кьево» – «Рома». **11.00** Футбол. Чемпионат Франции. «Марсель» – «Бордо». **13.00** Бессмертные. Донован/Бускетс/Кин/Жинола. **13.30** Дрим Тим. «Сан-Антонио». Европейские игроки в НБА». **14.00** Футбол. Чемпионат Испании. Обзор. **14.55** Футбол. Чемпионат Испании. «Хетафе» – «Сельта Виго». **17.00** Бессмертные. Гвардиола/Агуэро/Погба/Гризманн. **17.30** Дрим Тим. **18.10** Футбол. Чемпионат Испании. «Атлетико Мадрид» – «Реал Мадрид». **22.15** Бессмертные. Дюрран/Вейд/Джексон/Таурази. **22.40** Футбол. Чемпионат Испании. «Леганес» – «Реал Бетис».

#### ВОСКРЕСЕНЬЕ

**0.45** Дрим Тим. Теннис. Кубок Дэвиса/Кубок Федераций. **1.15** Футбол. Чемпионат Италии. «Кьево» – «Рома». **3.00, 15.45** Хоккей. НХЛ. «Тампа Бэй» – «Питтсбург». **6.00** UFC 234. **9.00** Бокс. Обзор. **9.30** Футбол. Чемпионат Италии. «Фиорентина» – «Наполи». **11.15** Футбол. Чемпионат Италии. «Парма» – «Интер». **13.00** Футбол. Чемпионат Испании. «Атлетико Мадрид» – «Реал Мадрид». **14.45** Дрим Тим. Чемпионат Италии/Дортмунд. **15.15** Бессмертные/Бейл. Касильяс/Левандовски/Соло. **17.45** Дрим Тим. **18.10** Футбол. Чемпионат Испании. «Валенсия» – «Реал Сосьедад». **20.15, 22.30** «Сетанта Спорт». **20.25** Футбол. Чемпионат Испании. «Севилья» – «Эйбар». **22.40** Футбол. Чемпионат Испании. «Атлетик» – «Барселона».

# Упершыню за ўсю гісторыю інстытута студэнту скарацілі тэрмін навучання

## Юрась Церабун – пра сям'ю і брата-скульптара

**Пасля шматгадовых вандраванняў, пакінуўшы ў апошнія гады вайны сваю радзіму – Польшчу, мы знайшлі прытулак у Беларусі. Яна прыняла нас у цяжкую хвіліну і дазволіла выжыць.**

СМАРГОНЬ

### Так мы і сталі смаргонцамі

Як лепшаму работніку Смаргонскага лесазавода, якому сёлета споўняецца 75 год, бацьку **Васілю Карнілавічу Церабуну** выдзелілі пазыку – бярвенні для будаўніцтва ўласнай хаты. Бацька яе пабудаваў. Так мы і сталі смаргонцамі.

Мне вельмі падабалася, калі маці называла бацьку Васілёк. Яны ніколі не сварыліся, бо ўмелі саступаць адно аднаму. Па выхадных да бацькі прыходзілі сябры з вуліцы Багушэвіча. Бацька зрабіў лаву, прыносілі з хаты некалькі табурэтак і гулялі ў карты. Не ведаю, у якую гульню, але прасілі паперу або вучнёўскі сшытак. Потым усё гэта было спісана слупкамі лічбаў і імёнамі гульцоў. Часам даставалі кашалькі з капейкамі, разлічваліся і гулялі зноў.

Гулялі і ў шашкі. На лесазаводзе ў абед чэргі сталі, каб сесці за дошку.

Стомлены пасля цяжкай працы піларамшчыка, бацька прыходзіў дамоў, клаўся на ложак, уключаў лямпавы радыёпрымач, які быў настроены на яго любімую станцыю «Голас Амерыкі». Савецкія навіны глядзеў па тэлевізары. Любіў глядзець фігурнае катанне і ведаў усе дробязі гэтага віду спорту.

Таксама прыгожа спяваў раманс «Накинув плащ з гитарой под полю». Магчыма, таму мой брат **Уладзімір** захапіўся жанрам рамanса і нават пісаў іх сам. На студыі гуказапісу ў Вілейцы ён запісаў шэраг рамансаў у сваім выкананні. На гітары акампанаваў сам, а на віяланчэлі – мой сын, таксама **Уладзімір Церабун**.

### Усе шасцёра былі дагледжаныя

Мая маці, **Антаніна Антонаўна**, была вельмі таленавітай жанчынай: і танцоркай, і спявачкай. Умела сеяць, жаць, малаціць, прала і ткала, пякла пірагі, фарбавала і распісвала воскам велікодныя яйкі.

У сям'і было шасцёра дзяцей. Усе мы былі абутыя, апранутыя, дагледжаныя і накормленыя.

Маці была веруючай жанчынай. Колькі яна праліла слёз, калі знявяжылі святара **Уладзіміра Роўду**. Памятаю, як закрылі смаргонскую царкву. Ідучы школьнікамі на кастрычніцкую дэманстрацыю, мы ўбачылі, што на галоўным купале прымацавалі чырвоны сцяг. «Ці яму там месца?» – падумалася тады.

Маці з іншымі жанчынамі збіраліся каля паркана царквы, бо брама была зачыненая, вешалі свае абразы з ручнікамі і маліліся.

З намі пачалі гутарыць строгія дзядзькі. «Папрасіце сваю маці не хадзіць на гэтыя зборкі. А то вам можа быць дрэнна» – казалі яны. Гутарылі і з маці. А яна адказвала. «Я нікога і нічога не баюся. У мяне шасцёра дзяцей. Мяне дзяржава ўзнагародзіла медалём мацярынства. Сваёй краіне я даю пяць сыноў – пяць салдат. I хачу быць з богам і людзьмі».

Усе сыны сапраўды адслужылі ў войску. Малодшы, Уладзімір, і я служылі ў Беларусі, **Кастусь** – у Ташкенце, **Мікола** – на Камчатцы, **Міхась** – у Варонежы. Не забудзем мы і нашу сястру, **Надзею**, якая працавала швачкай у атэлье «Бярозка» ў Маладзечне.

Калі Уладзімір даслаў сваё першае фота ў вайсковай форме, маці гадзінамі разглядала яго і плакала. Яшчэ вучнем смаргонскай школы ён атрымаў пасведчанне кіроўцы, два разы праехаўшы па школьным двары. А тут у вайсковай часці садзяць за руль і кажуць ехаць на баявыя стрэльбы і везці нешта важнае.

Пасля трох гадоў службы Уладзімір паступіў у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут на аддзяленне скульптуры, трапіў у майстэрню народнага мастака БССР прафесара **Андрэя Бембеля**. Брату пашчасціла вучыцца ў прафесара **Анатоля Анікейчыка**, **Генадзя Мурамцава**. Курс жывапісу вёў мастак **Уладзімір Пасюкевіч**.



Уладзімір Церабун у гады вучобы.

### Маляваў па дарозе з Мінска ў Смаргонь

Брат вучыўся добра па ўсіх прадметах, бо марыў стаць скульптарам. Пакуль ехаў з Мінска ў Смаргонь, у цягніках рабіў мноства накідаў і замалёвак у кішэнным альбоме. Студэнтам перамог у конкурсе на стварэнне мемарыяльнага помніка Дальвы – вёскі, якая раздзяліла лёс Хатыні. Цэлае лета жыў у вёсцы Мятлічыцы, што на Лагойшчыне, і ў сялянскім гумне працаваў над сваім творам. Экзаменацыйная камісія паставіла пяцёрку. Такія адзнакі былі па ўсіх прадметах.

**Уладзімір атрымаў дыплом з адзнакай, яму на год скарацілі вучобу ў інстытуце. Такое адбылося першы раз у гісторыі інстытута.**

Потым былі Гродна, зноў Мінск і, нарэшце, Смаргонь – горад, ганаровым грамадзянінам якога ён з'яўляецца.

Уладзімір давёў да ладу дом на вуліцы Трактарнай, што дастаўся яму ў спадчыну ад брата Кастуся. Зрабіў надмагільныя помнікі бацькам, брату Кастусю і яго жонцы. Каля дома пасадзіў добры сад. Ёсць таксама грады і цяпліцы. Тут ён сапраўдны Мічурын. Таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім.

Наведвае сваю «Мядзведжую акадэмію» ў парку і мемарыяльны комплекс па лініі супрацьстаяння ў гады Першай сусветнай, вядзе грамадскую дзейнасць. Па яго ініцыятыве дзве вуліцы ў Смаргоні назвалі ў гонар вядомых ураджэнцаў – харавога дырыжора, народнага артыста СССР і БССР, прафесара **Віктара Роўды** і заслужанага дзеяча культуры БССР, заснавальніка і кіраўніка Смаргонскага народнага цымбальнага аркестра **Аляксандра Дзяругі**.

Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат прэміі імя Ленінскага камсамола Беларусі, ганаровы грамадзянін Смаргоні, мастак і скульптар Уладзімір Церабун шмат зрабіў і яшчэ больш, будзем спадзявацца, зробіць для роднай Беларусі і сваёй малой радзімы.

**Юрась ЦЕРАБУН,**
**Маладзечна.**
**Фота з архіва аўтара.**

## «Дынама-Брэст» хоча адкрыць філіял футбольнай акадэміі ў Астраўцы. Цікавіцца і Мядзелем

**АСТРАВЕЦ МЯДЗЕЛ**

У вялікім інтэрв'ю генеральнага дырэктара ФК «Дынама-Брэст» **Ігара Астапчыка** прагучала тэма нашага рэгіёна.

**– Не раз было заяўлена аб планах пашырэння акадэміі. Ёсць нейкія зрухі па гэтай тэме?**

– У кіраўніцтва ёсць разуменне аб неабходнасці ахопу паўночна-заходняга рэгіёна, а пазней і іншых рэгіёнаў Беларусі. 26 снежня мы адправілі ліст у Астравецкі райвыканкам з прапановай стварэння там філіяла акадэміі «Дынама-Брэст» на ўзор Александрыі.

**– Чаму Астравец?**

– Насельніцтва Астраўца моцна павялічыцца ў бліжэйшы час з прычыны будаўніцтва атамнай станцыі. Чакаецца, што абслугоўваць яе будуць каля 10 000 чалавек. А калі ўлічыць, што людзі прыедуць з сем'ямі, то ўсё гэта выльецца ў вялікую лічбу, якой прырасце насельніцтва дадзенага рэгіёна. І нягледзячы на тое, што там нядаўна адкрылі выдатны новы гарадскі стадыён, яго будзе недастаткова. Толькі наяўнасць акадэміі сапраўды здольная павялічыць каэфіцыент карыснага дзеяння ад наяўнасці стадыёна.

> **Я ўжо быў у Астраўцы на перамовах са старшынёй райвыканкама, які аказаўся спартыўным чалавекам, добра разбіраецца ў футболе. Мы абмеркавалі папярэдні план супрацоўніцтва і робім у гэтым кірунку першыя крокі.**

Пасля інтэрв'ю рэсурсу tut.by кіраўніка «Дынама-Брэст» **Аляксандра Зайцава** да нас звярнулася група бацькоў з Мядзельскага раёна з просьбай адкрыць там футбольную акадэмію. Мы абавязкова даедзем і ў Мядзел. Геаграфічна гэта адзін рэгіён, што, адпаведна, спрашчае задачу развіцця і кіравання. Таксама побач Пастаўскі раён Віцебскай вобласці, дзе ў свой час ужо была дзіцячая акадэмія, з дырэктарам якой мы знаходзімся ў кантакце. Прапанавалі яму зрабіць агульны праект і ўпэўнены, што гэта ў нас атрымаецца.

**Паводле афіцыйнага сайта ФК «Дынама-Брэст».**

# Судака ляпілі са снегу, выразалі з лёду, смажылі і вэндзілі



Фота каля скульптуры з лёду Валерыя Апарыка.



Змагаюцца рыцары.




А тут прапануюць чай «Здароўе».



Гасцям было дзе адчуць напоўніцу весялосць зімовых забаў.



Святлана Мацукевіч (злева) дзеліцца ўражаннямі.

**ВІЛЕЙКА**

**Традыцыйнае рыбнае свята справілі ў Вілейскім дзяржаўным каледжы 24 студзеня.**

Гэта быў не проста конкурс кулінарыі, а сапраўднае свята. Было каля 16 градусаў марозу, таму доўга трымаць дзяцей на вуліцы нельга – трэба было паспець выканаць усю праграму як мага хутчэй.

Навучэнцы каледжа падзяліліся на тры каманды. Кожная гатавала судака па-свойму. Адны зварылі юшку, другія пасмажылі, а трэція вэндзілі. Прыстасаванні для гатавання ежы пад адкрытым небам зварылі майстры каледжа. А нагатаваным частавалі гасцей.

Яшчэ адным блокам харчавання стаў разліў гарбаты «Здароўе» – з мяты і іншых зёлак.

Для гасцей правялі спартыўныя спаборніцтвы, выступалі навучэнцы з песнямі.

Раніцай на пляцоўцы расчысцілі снег і зляпілі з яго дзве вялікія фігуры рыбін. Упрыгожылі іх разведзенай фарбай, каб атрымалася луска і вочы. Фігуры сталі выдатным фонам для фотаздымкаў.

Каралём сцэны была скульптура рыбы з лёду. Ільдзіну прывезлі з возера, а пасля майстар **Валеры Апарык** выразаў з яе рыбу. Таксама пафарбавалі так, што адразу і не здагадаешся, што скульптура з ледзяша.

На свята прыйшлі жыхары і школьнікі. Асабліва захапляльнымі былі выступленні ўдзельнікаў рыцарскага клуба пры каледжы. Хлопцы надзявалі даспехі і змагаліся.

– Такія святы – найлепшая прафарыентацыя, – расказала намеснік дырэктара каледжа па выхаваўчай рабоце **Святлана Мацукевіч**. – Дзеці бачаць, што ў нас выдатныя ўмовы і для навучання, і для самаразвіцця. Заўсёды адбор на конкурснай аснове. Таму ахвотным паступіць у нашу ўстанову варта вызначыцца з рашэннем загадзя.

Пераможцаў выразшылі не абіраць – усе справіліся з заданнем і пачаставалі гасцей. А хто не патрапіў на свята сёлета, няхай чакае Дня судака-2020.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота аўтара.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
3. Дзе захоўваюць дзяржаўныя грошы.
5. Самая густанаселеная краіна.
7. Гэты інструмент неабходны настройшчыку піяніна для рамонту.
8. Сусветны лідар па вырабе ванілі. Тут вельмі шмат заводаў па вырабе парфумернага алею. І ўвозіць сюды іншы парфум забаронена.
9. Яго можна ўбачыць, але немагчыма дайсці.
11. Вікінг Лейф Эрыксан апярэдзіў яго на 5000 год. Мяркуюць, што ён дабраўся да Лабрадора і Ньюфаўндленда і назваў гэта месца Вінланд – вінаградная зямля.
13. Дагэтуль большасць электрычных кабеляў у свеце з гэтага металу.
16. Адзін з трох родаў мастацкай літаратуры, у якім адлюстроўваюцца перажыванні паэта, яго думкі, настроі, пачуцці.
17. У ім выпрацоўваецца торф.
21. Невялікі прадмет, што носяць на целе як магічны сродак, быццам бы здольны засцерагчы ад няшчасця, хваробы.
23. Тонкі востры канец.
25. Сяргей Грахоўскі: «Адчай з жалобай нечуванай моцы Жыццё і смерць паставілі на кон, І ў кожным гуку ажывае …, Бязлітасна асуджаны на скон».
27. У гэтай краіне можна апынуцца за кратамі за выраб поліэтыленавых пакетаў.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Народнае паданне аб гістарычнай падзеі, асобе, якое выдаецца і ўспрымаецца як верагоднае.
2. Грабніца ў Старажытным Егіпце.
4. На ім зрабілі такі надпіс пра жыхара Ірландыі па прозвішчы Браўн, які пражыў 120 год: «Ён быў заўсёды п’яны і такі страшны ў гэтым стане, што сама смерць баялася яго».
6. Росквіт гэтага танца адбыўся ў сярэдзіне 20 стагоддзя, калі панавала Вялікая дэпрэсія ў ЗША, а свет страсянула Другая сусветная вайна.
10. Гэты музычны інструмент бралі на бой, каб запужаць гукам ворага.
12. Вадзіцель самалёта.
14. Самы старажытны аб’ект абагаўлення.
15. Першабытныя людзі зразумелі, што такі спосаб злавіць здабычу больш бяспечны, чым прамое паляванне.
18. Дзеліць зямлю папалам.
19. Процілеглае слову «дрэнна».
20. Самы першы музычны інструмент, які знайшлі археолагі. Яму каля 40 тысяч год.
22. У час залатой ліхарадкі на Алясцы яна каштавала на вагу золата, таму што засцерагала ад цынгі.
23. Маладое пакаленне, бліжэйшыя патомкі.
24. Від улады ў старажытнай Грэцыі.
26. Калі ўязджаеце ў Швейцарыю, упэўніцеся, што гэты аксесуар у вас не падроблены. Швейцарцы забараняюць увозіць у сваю краіну падробкі на гэты прадмет.
27. Групы людзей у Індыі, на якія дзялілі жыхароў.

## Адказы на крыжаванку з №4

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Партсігар. 3. Анекдот. 4. Вандроўка. 5. Капейка. 10. Вавілон. 11. Буцэфал. 12. Сінонімы. 13. Нолік. 17. Блохі. 18. Корань. 19. Жалейка. 20. Печка. 21. Крош. 23. Ангіна. 25. Аптэка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Бамбук. 6. Антэна. 7. Паветра. 8. Руды. 9. Воўк. 12. Суфікс. 14. Бабёр. 15. Аналіз. 16. Лінейка. 18. Канспект. 22. Апора. 23. Ананас. 24. Шакалад. 26. Том.


## Мінскі абласны тэатр лялек «Батлейка». Рэпертуар на люты

В.Карастылёў.
**«ДОКТАР АЙБАЛІТ»**
(музычная казка, бел.)
**3 лютага – у 12:00**

**ПРЭМ’ЕРА.** У.Хуб.
**«У КАЎЧЭГА Ў ВОСЕМ»**
(дапатопная гісторыя, рус.)
**10 лютага – у 12:00**

Х.Янушэўская.
**«ТЫГРАНЯ ПЕТРЫК»**
(музычная казка, бел.)
**17 лютага – у 12:00**

І.Сідарук.
**«ТРЫ ПАРСЮЧКІ»**
(музычная казка, бел.)
**24 лютага – у 12:00**

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, па адрасе:
**г.Маладзечна,**
**вул. Драздовіча, 5-в.**
Тэл. (80176) **74-62-19, 50-56-96, 74-63-79.**




УНП 600136804


## ГАРАСКОП 1-7 ЛЮТАГА

**АВЕН.** Старайцеся не настройваць сябе на дрэннае, і ў вашым жыцці ўсё будзе адбывацца значна лепш. Дні заклікаюць да нейкай лёгкасці, абыякавых і ціхамірных адносін да таго, што адбываецца. Менавіта такая пазіцыя, магчымасць даверыцца волі лёсу, дазволіць вам дасягнуць неабходных вынікаў.

**ЦЯЛЕЦ.** Ідэі для бізнесу або ўладкавання свайго жылля, якія з’явяцца ў пачатку тыдня, будуць самымі паспяховымі, паспрабуйце не ўпусціць іх, нават калі яны прыйдуць у сне. Цяпер вам можа ўсміхнуцца лёс, але тут важна не ўпусціць птушку шчасця. Неабходна смела лавіць яе за хвост і цягнуць да сябе, пакуль не выканае вашага запаветнага жадання.

**БЛІЗНЯТЫ.** Вы атрымаеце ўсё неабходнае, каб ажыццявіць свае жаданні і даўно задуманыя планы. Выберыце асноўны напрамак для дзейнасці і праявіце максімум працавітасці і намаганняў для дасягнення мэты.

**РАК.** Вы заслужылі трохі адпачынку. Справы прыведзеныя ў норму, усё пастаўлена на паток і можна проста атрымліваць асалоду ад працэсу, як усё адбываецца і ідзе, згодна з вашым планам.

**ЛЕЎ.** Спрыяльныя дні, асабліва для ўсяго, што звязанае з сям’ёй і атрыманнем эмацыйнага задавальнення. Але каб не парушыць ідылію, каб сваімі неакуратнымі ўчынкамі не нашкодзіць адносінам і не сапсаваць сабе і іншым прыемны момант, праявіць мудрасць, чуласць і разуменне тонкіх працэсаў.

**ДЗЕВА.** Шмат часу прыйдзецца ўдзяліць папяровай валакіце. Пастарайцеся быць як мага больш уважлівымі, каб не згубіць якога-небудзь важнага дакумента.

**ШАЛІ.** Падзеі гэтых дзён могуць адкрыць новыя гарызонты і поле для дзейнасці, таму ўважліва пастаўцеся і будзьце гатовыя. Ёсць магчымасць паспяхова рэалізаваць сябе ў фінансавай сферы, атрымаць прасоўванне па працы ці неяк уладкаваць сваё жыллё.

**СКАРПІЁН.** Матэрыяльны дабрабыт у гэты час атрымае новую апору і дадатковы штуршок наперад. За вамі застанецца толькі ўвасобіць усё ў жыццё.

**СТРАЛЕЦ.** У вас шмат сіл, і калі гэтыя сілы прымяніць з розумам, то можна было б зрабіць нешта зусім незвычайнае і грандыёзнае. Так што думайце, плануйце, разлічвайце.

**КАЗЯРОГ.** Вас чакае шмат пераменаў. Кола лёсу можа паварочвацца ў розныя бакі, але ў вас ёсць усе шанцы павярнуць яго так, каб вам прынесці больш карысці. Для гэтага паварушыце мазгамі, праявіце разважлівасць, хітрасць і ўнутраную непрымірымасць.

**ВАДАЛЕЙ.** Вам захочацца весяліцца, радавацца жыццю, траціць свой час на ўсялякія свавольствы, з’явіцца рамантычны настрой. Але жыццёвая сітуацыя накіроўвае вас у прыземленае рэчышча. Надайце больш увагі працы ці ўладкаванню дамашняй утульнасці.

**РЫБЫ.** Вас чакае шмат эмоцый, якія можна будзе ўзяць пад кантроль і накіраваць у прадуктыўнае і, магчыма, нават вельмі выгаднае рэчышча. Удзяліце ўвагу сабе, паклапаціцеся пра сваё здароўе і прыгажосць.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 9 | | 6 | | 1 | 4 | | | |
| 4 | 7 | | | 3 | | | | |
| | | | | 6 | 8 | 4 | 1 | |
| 2 | 3 | | | | 6 | 9 | | |
| | 9 | | 5 | | 2 | | | |
| | 1 | | 3 | | | | 7 | |
| | 4 | | 8 | | | 6 | 2 | |
| | 5 | 9 | | | | | | |
| 3 | 6 | | | | | 8 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

## Чытайце праз тыдзень

● У 2020 годзе ў Беларусі практычна не стане дактароў-тэрапеўтаў. Іх заменяць дактары агульнай практыкі. У некаторых паліклініках рэгёна такія спецыялісты ўжо працуюць. Ці з'яўляецца такая медыцынская дапамога больш прафесійнай? Ці разгружае такі доктар вузкіх спецыялістаў? Ці змяншаецца чарга за талонамі?

● ПРОСТА АНЕКДОТ

Адключылі інтэрнэт на 10 хвілін, выйшаў пабалбатаць з сям'ёй, здаецца, нядрэнныя людзі.

***

Падчас шлюбу ў ЗАГСе маладыя стаялі з такімі выразамі твараў, што сведак з боку жаніха і нявесты хацелася назваць панятымі.

***

Самая вялікая хлусня, якую муж паўтарае жонцы ўсё сямейнае жыццё, пра тое, што самым шчаслівым днём яго жыцця быў дзень вяселля. А на самой справе гэта быў той дзень, калі на возеры шалёна клявала.

***

– Гэта дакладна Версачэ?

– Так, так, Версачэ. Станавіцеся на кардонку.

## За курэнне на дзіцячай пляцоўцы або прыпынку пагражае штраф да 102 рублёў

**За курэнне на дзіцячай пляцоўцы або прыпынку грамадскага транспарту раней міліцыянер мог зрабіць толькі вусную заўвагу, а цяпер пагражае штраф да 102 рублёў.**

У Беларусі стала больш жорсткім антытытунёвае заканадаўства. Дэкрэт №2 **Аляксандра Лукашэнкі** змяніў рэгуляванне вытворчасці, абароту і спажывання тытунёвых вырабаў. Пашырылі пералік месцаў, у якіх цалкам забаранілі курыць.

Дадаліся ліфты, падсобныя памяшканні жылых дамоў, дзіцячыя пляцоўкі, аўтамабілі (калі ў іх перавозяцца дзеці ва ўзросце да 14 гадоў), прыпынкі і пасадачныя пляцоўкі, падземныя пераходы, тэрыторыі і памяшканні спартыўна-аздараўленчых лагераў.

28 студзеня Міністэрства ўнутраных спраў агучыла сумы штрафаў, якія чакаюць парушальнікаў. За курэнне на дзіцячай пляцоўцы або прыпынку пагражае штраф да 102 рублёў. А калі парушальнікам стаў падлетак, бацькоў могуць аштрафаваць на 255 рублёў – калі дакажуць, што яны не выконвалі абавязкі па выхаванні дзіцяці.

**Летась за курэнне ў забароненых месцах да адказнасці прыцягнулі амаль сем тысяч чалавек.**

Сярод іх было больш за сто непаўналетніх.

**Паводле EURORADIO.FM.**


## Хай зімой вас саграве «Рэгіянальная газета»!

### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цісне літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 4 рублі 20 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 12 рублёў 50 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*


## 2 лютага, субота

**Вецер:** паўднёва-ўсходні, 5-6 м/с

Астравец: +1 / 0, Значная воблачнасць
Мядзел: +3 / +1, Значная воблачнасць
Смаргонь: +2 / +1, Значная воблачнасць
Ашмяны: +1 / 0, Хмарна з праясненнямі
Вілейка: +1 / +1, Значная воблачнасць
Маладзечна: +1 / +1, Значная воблачнасць
Валожын: +2 / +1, Значная воблачнасць

Усход 8.59
Захад 17.53
Даўжыня дня 8.54

Усход 7.39
Захад 15.25
Месяц на сходзе

### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература -26,2°С у 2012 годзе
Максімальная тэмпература +7,1°С у 2016 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 5,7 мм у 2000 годзе

Паводле meteoinfo.by.


ВІДЭАРЭКЛАМА на Rh.by

**Напішам** сцэнарый
**Здымем**, агучым, зробім мантаж
**Размесцім** у нашых медыях
**Партнёрства**, прадакт-плэйсмент

(8-0176) **53-78-04 • reklama@rh.by**

**МЫ Ў АДНЫМ КАДРЫ З ВАШЫМ БІЗНЕСАМ!**


● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ВІЛЕЙЦЫ

## Што вам хацелася б змяніць у горадзе?

**Вікторыя Сынашка, у дэкрэтным адпачынку:**

– Як мне здаецца, наш населены пункт досыць развіты, тут ёсць усё для паўнавартаснага жыцця. Вельмі хацелася б, каб у нашым гарадскім парку з'явіліся атракцыёны для дзяцей.

**Настасся Каркоцкая, аператар паштовай сувязі, у дэкрэтным адпачынку:**

– Хочацца, каб акуратнымі вуліцы не толькі новыя, але і старыя. Да прыкладу, на Партызанскай адсутнічае дарожка для пешаходаў. Ёсць яшчэ вуліцы і двары, дзе іх няма або ў дрэнным стане. Яшчэ хочацца адкрыцця дзіцячых забаўляльных цэнтраў.

**Цімафей Булах, займаецца разьбой па дрэве:**

– Патрэбныя добрыя дарогі і пешаходныя дарожкі. У спартыўных забавах, улічваючы бюджэт нашага невялікага горада, лічу, што ўсё нядрэнна. Толькі трэба крыху яшчэ развіць гэту сферу і навучыцца прыцягваць і падтрымліваць у гэтай справе моладзь.

**Дар'я Юшкевіч, Міжнародны інфармацыйны каардынатар па аказанні дапамогі дзецям з анкалагічнымі захворваннямі:**

– Радуе, што горад добра асветлены. Трохі прыгнятае адсутнасць кругласутачнай аптэкі і крамы. У мяне такая работа, што магу вызваліцца сярод ночы. А тут і халадзільнік пусты, і таблеткі ад прастуды скончыліся.

**Вікторыя Кежун, доктар, у дэкрэтным адпачынку:**

– Вілейка – прыемны горад для жыцця. Шмат ужо зроблена, але многае залежыць ад культуры саміх людзей, якія гэта часта не берагуць. Як матулі маленькіх дзяцей, хочацца, каб абнавілі аўтобусны парк – у стары аўтобус з вазком на тры прыступкі не залезеш.

**Дзяніс Астрэлін, музыкант:**

– Хочацца, каб у горадзе з'явілася больш месцаў для культурнага баўлення часу моладзі. З працай, напэўна, каб справы лепш ішлі. З праблем тое, што ўся «прасунутая» моладзь не хоча жыць у Вілейцы, чакае моманту з'ехаць куды-небудзь. Бягуць, бо сумна ў горадзе, рабіць няма чаго.

**Таццяна Баслык, выкладчык, Вілейскі дзяржаўны каледж:**

– Дарогі жудасныя. А яшчэ ў сваім горадзе я хацела б, каб людзі не былі такія злыя і агрэсіўныя. Хачу, каб дапамагалі адзін аднаму і ніколі не кідалі ў бядзе, каб заўсёды маглі падаць руку дапамогі.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**


Рэгіянальная газета. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№5 (1240) 1.02.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 170. Падпісана ў друк у 9.00 31.01.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

© «Рэгіянальная газета», 2019


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.